№ 30 (771) 8 жніўня 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўлен ватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серад

## Прадмесці Мінска: Калодзішчы

Цыганскія анклавы, слабая інфраструктура, вялікія перспектывы. Старонка 6.



## Джэніфер Лопэс едзе ў Мінск

Будуць выкананы ўсе вымогі: шэрая мэбля, белыя архідэі, ежа раз на дзве гадзіны… Старонка 11.



# Карлсан вёў падрыўную дзейнасць

Пасол Швецыі **Стэфан Эрыксан** высланы з Беларусі. **Старонка 3.**



**Тэндэнцыі**

## «Нельга каментаваць на роднай мове. Вось гэта дзікасць!»

Каментаваць Алімпіяду **па-беларуску перасталі**.

Каментатары Дзмітрый Герчыкаў і Павел Баранаў пачыналі весці свае трансляцыі з Лондана на беларускай мове, але праз нейкі час перайшлі на расейскую. «Гэта не маё рашэнне», — шматзначна адказаў Герчыкаў.

«Тут ёсць заўзятары, якія тэлефануюць мне так часта, што абсалютна немагчыма працаваць. Яны крычаць, што давайце ім трансляцыі на расейскай мове», — сказала галоўны дырэктар аддзела спартовага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі Зінаіда Рунц.

Дзе шукаць заўзятараў, як не на спартовых сайтах. Вось, напрыклад, рэакцыя на сайце goals.by.

128 карыстальнікаў на навіну пра забарону трансляцый на беларускай мове падчас Алімпіяды адрэагавалі адыоўна, упадабанняў толькі 15.

«Самі сябе не паважаем. А потым дзівімся, што суддзі аб нас ногі выціраюць», — напісаў palich69.

«Афіцыйна нельга каментаваць на роднай мове. Вось гэта дзікасць!» — injustice.

На Goals.by чытаюць людзі розных поглядаў. Цікава, на каго тады спасылаецца Зінаіда Рунц?

**ЗП**

Тэлефанаваць у Белтэлерадыёкампанію з прапановамі весці трансляцыі па-беларуску можна па гэтых тэлефонах: (017) 389-62-17, (017) 389-62-20. Лісты можна кіраваць на адрас БТ.

**Крымінал**

### У Мінску забілі грузінскага «аўтарытэта»

Двор на вуліцы Кузьмы Чорнага заліты крывёй. **Старонка 10.**



**Грамадства**

### У Беларусі з'явіліся паляўнічыя за геямі

Гея з Ваўкавыска сустрэлі хлопцы ў масках. **Старонка 7.**



**Каханне і сэкс**

### Асаблівасці чэшскай разняволенасці

Пражанкі адпачываюць топлес. Расказвае Аляксей Шыдлоўскі. **Старонка 8.**



**Гісторыя**

### Беларускі Валенберг з-пад Навагрудка

Самагоншчык Косцік Казлоўскі выратаваў 500 габрэяў. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Плошча-2010 трапіла ў школьны падручнік

На «Дапрызыўной падрыхтоўцы» вывучаюць «азвярэлыя твары падвыпіўшых малойцаў».

Да пачатку навучальнага года выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» перавыдала падручнік «Дапрызыўная падрыхтоўка» для 10—11 класаў. Аўтар — палкоўнік у адстаўцы Вячаслаў Варламаў. Адмыслова для перавыдання былі дапісаны параграф «Супрацьдзеянне інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі», у якім аўтар інтэрпрэтуе падзеі 19 снежня 2010-га.

«Пацярпеўшы поўнае паражэнне на прэзідэнцкіх выбарах 19 снежня, некаторыя экс-кандыдаты ў прэзідэнты паспрабавалі захапіць уладу гвалтоўна. Змова з дапамогай замежных спецслужб і пры фінансавай падтрымцы некаторых заходніх структур рыхтавалася загадзя. Толькі зачыніліся выбарчыя ўчасткі, як інтэрнэт-сайт «Хартыя-97» паспяшаўся паведаміць карыстальнікам узрушаючую вестку пра тое, што адзін з кандыдатаў у прэзідэнты заявіў пра падзенне «рэжыму Лукашэнкі» і абвясціў пра стварэнне «ўрада народнага выратавання». А ў гэты час «баевікі» грамілі дзверы і шыбы Дома ўрада».

А далей Варламаў канстатуе, што «контрпрапаганда, якую праводзяць у Рэспубліцы Беларусь пасля правальнай змовы па звяржэнні ўлады», з'яўляецца «прыкладам актыўнага супрацьдзеяння інфармацыйнай агрэсіі».

І ў якасці ўдалага супрацьдзеяння называе паказ фільма «Плошча. Жалезам па шкле», у якім «была прадстаўлена ўся дынаміка няўдалага путчу: планаванне змовы, грошы еўрапейскіх фондаў, заклікі ісці на «плошчу», азвярэлыя твары падвыпіўшых малойцаў і біццё шкла». А таксама серыю публікацый у «Советской Белоруссии» пад загалоўкам «За кулісамі адной змовы». Тую самую, дзе за спіс «урада нацыянальнага выратавання» выдаваўся праект спіса ценявога ўрада, які задоўга да таго спрабавалі стварыць хрысціянскія дэмакраты.

Падручнік выйшаў з грыфам Міністэрства адукацыі Беларусі. Адметна, што аўтар падручніка Вячаслаў Варламаў нарадзіўся ў 1933-м у Сызрані (Расія) і служыў у Савецкай Арміі.

Кастусь Матушыч

**Каментар**

Такой белібердой трамбуюць галовы школьнікаў. Ды хай бы яшчэ лухтой. Фактычна, такія пасажы выхоўваюць варожасць да краін Еўропы і ЗША і да грамадзян Беларусі іншых поглядаў. Адначасова беларускае падмяняецца савецкім, што стварае перадумовы для знікнення беларусаў як нацыі.

**«План Далеса»**

Узровень аўтара і падручніка красамоўна характарызуе той факт, што ў падручніку цытуецца так званы «план Далеса па развале СССР» 1945 года. Гэтая фальшыўка ўпершыню была апублікавана... мітрапалітам Санкт-Пецярбуржскім Іаанам у газеце «Советская Россия» 20 лютага 1993. Мітрапаліт спасылаўся на гэты план, побач з так званымі «Пратаколамі сіёнскіх мудрацоў» у доказ таго, што Захад вядзе супраць Расіі «подлую, брудную вайну».

Мала таго, што гэты дакумент быў сфабрыкаваны расійскімі шавіністамі, дык яшчэ і бяздарна. У 1945 годзе ЦРУ яшчэ не існавала, яно было заснавана ў 1947. А Далес стаў ягоным кіраўніком у 1953. Вось табе і ўзровень «контрпрапаганды».

Дарэчы, ніякіх дактрын Далес не ствараў — дакументы ЦРУ таго часу ў ЗША рассакрэчаны.

**Допризывная подготовка. Учебник для 10—11 классов учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / 3-е издание, пересмотренное и дополненное / Вячеслав Варламов. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 328 с.**

## Прафсаюзы ў полі зроку

Скайп і электронную скрыню незалежнага Прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) узламалі.

Гэта стала ясна, калі невядомыя спрабавалі вывудзіць дакументы з подпісам ад дацкіх калег.

Мэдсэн Лунд, кіраўнік міжнароднага аддзела найбуйнейшага прафсаюза Даніі, партнёраў прафсаюза РЭП, 3 жніўня атрымаў паведамленне ў скайпе ад імя прафсаюза РЭП з просьбай даслаць дакументы з подпісам старшыні Генадзя Фядыніча. Маўляў, лідар прафсаюза РЭП трапіў у шпіталь з сардэчным прыступам, а нам трэба гэты дакумент.

Лунд здзівіўся і вырашыў праверыць. «Скажы, якія сувеніры ты мне прывёз у часе апошняга візіту ў Капенгаген у чэрвені? — запытаўся ён. — Тады дашлю».

У гэты самы час у прэс-сакратара прафсаюза РЭП Мікалая Герасіменкі ў скайпе запыталіся, якія сувеніры прывёз Фядыніч Даніі дацкім калегам падчас візіту ў Капенгаген у чэрвені. Яшчэ ў аднаго актывіста спыталі, у якім рэстаране была арганізавана вячэра падчас гэтага візіту.

Аднак шпіёнаў раскусілі. «Мой калега прапанаваў суразмоўцам не марнаваць час і сілы на непатрэбную актыўнасць, а заняцца справай і надзейна ахоўваць межы нашай Радзімы, — распавёў на прафсаюзным сайце praca-by.info Мікалай Герасіменка. — Адказам стала фраза «Смяецца той, хто смяецца апошнім». Праўда, яе адразу выдалілі».

Еўрапейскія прафсаюзы актыўна дапамагаюць незалежным беларускім. Па еўрапейскіх стандартах Беларусь лічыцца краінай, дзе людзі зусім не абаронены. Таму еўрапейскія рабочыя дапамагаюць беларускім рабочым, артысты — артыстам, а цэрквы прывозяць на аздараўленне дзяцей Чарнобыля. Сувязі РЭП з Еўропай, відаць, і сталі аб'ектам няўклюднай увагі спецслужбаў.

**Мікола Бугай**

## Дзявочы рэп-гурт запісаў песню супраць смяротнага пакарання

Пры ўдзеле Любові Кавалёвай.

У магілёўскім рэп-гурце «Прадмова» спяваюць Роня Роніч і Каця Красавік. А тэксты для спеву яны ўзялі ва Уладзіміра Някляева і Адама Глобуса. Цяпер яны знялі і відэакліп. Удзел у здымках узяла і маці расстралянага нядаўна Уладзіслава Кавалёва — Любоў Кавалёва.

**СГ**

# Самы стойкі кандыдат

12 жніўня Статкевічу споўніцца 56 гадоў.

Падпалкоўнік Мікалай Статкевіч адзначыць яшчэ адзін дзень нараджэння ў турме. Ён аказаўся самым нязломным з кандыдатаў у прэзідэнты. Адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні і дагэтуль сядзіць. З калоніі яго кінулі ў турму. Ужо там ён афіцыйна пабраўся шлюбам са сваёй грамадзянскай жонкай Марынай Адамовіч. Яна верна чакае яго.



**Як віншаваць тэлеграмай**

Тэлеграму можна даслаць, не выходзячы з хаты. Досыць патэлефанаваць з гарадскога нумара на нумар 166 і прадыктаваць тэкст. 212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4. Статкевічу Мікалаю Віктаравічу.

## Не забудзьцеся падпісацца!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

**Сцісла**

**КДБ прапануе «плюшаваму дэсанту» яўку з павіннай**

«Прапануецца падданым Швецыі, якія ўзялі ўдзел у ажыццяўленні незаконнага перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу, прыбыць у Мінск для ўдзелу ў следчых дзеяннях у якасці падазраваных, у тым ліку для правядзення вочных ставак», — заявілі ў КДБ. У камітэце патлумачылі, што «па выніках гэтых дзеянняў будуць прыняты працэсуальныя рашэнні ў дачыненні да беларускіх грамадзян, якія праходзяць па крымінальнай справе».

Выходзіць, калі шведы не прыедуць, будуць сядзець беларусы. Юнакоў Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава вінавацяць у дапамозе ў перасячэнні мяжы. Сурапін — фатограф, у блогу якога ўпершыню былі надрукаваны фоты мядзведзікаў. А Башарымаў — рыэлтар, які здаваў шведам кватэру.

**Прэм'ер-міністр Сірыі перайшоў на бок паўстанцаў**

Рыяд Хіджаб уцёк з Дамаска за мяжу разам з дзясяткам сваякоў. Хіджаб стаў прэм'ерам усяго два месяцы таму. Да таго ён працаваў міністрам сельскай гаспадаркі. «Сёння я абвяшчаю, што я пакідаю забойчы, тэрарыстычны рэжым і далучаюся да шэрагаў рэвалюцыі ў імя свабоды і годнасці», — гаворыцца ў ягонай заяве.

**Андрэй Макарэвіч паскардзіўся Пуціну**

«Я не веру, што Вам настолькі напляваць на краіну, якая абрала Вас прэзідэнтам, — напісаў ён у адкрытым звароце. — Карупцыя ў краіне стала невыноснай».

**Тры сюжэты пра Беларусь на «Еўраньюс»**

За апошні тыдзень тэлеканал надаў увагу перастаноўкам у сілавых ведамствах у выніку плюшавага дэсанту і высылцы шведскага пасла. А таксама расказаў пра палітвязня Алеся Бяляцкага.

**Фантаны заражаныя небяспечнымі бактэрыямі**

Як выявіла санстанцыя, утрыманне кішэчных бактэрый у вадзе там у дзясяткі разоў перавышае дапушчальныя нормы.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 1—7 жніўня**

1. Пасла Швецыі выслалі з Беларусі
2. Google пажартаваў з Лукашэнкі? — фотафакт
3. Ці лёгка ў Мінску атрымаць у морду?
4. Славенская дзюдаістка Раша Срака стала ўлюбёнкай інтэрнаўтаў
5. У цэнтры Мінска забілі крымінальнага аўтарытэта з Грузіі
6. Самалёты польскіх ВПС двойчы праляцелі над Мінскам
7. Рачкоўскі і Пахмелкін у адстаўцы за плюшавы дэсант
8. На 100 000 да замка Радзівілаў прымалявалі… праваслаўныя крыжы — фота
9. «Гомель» — «Ліверпуль»: 0:1
10. Уцечка мазгоў спыненая: выпускніку БДУ не далі выехаць у замежную магістратуру

# Пасла Швецыі выслалі з Беларусі

Інфармацыю пра дэмарш лукашэнкаўцаў распаўсюдзіў міністр замежных справаў Швецыі Карл Більт. «Рэжым Лукашэнкі выслаў шведскага пасла з Беларусі за тое, што ён занадта падтрымліваў правы чалавека. Агідна. Паказвае натуру гэтага рэжыму», — напісаў шведскі міністр у сваім твітары.

Більт таксама паведаміў, што ў адказ Швецыя высылае двух беларускіх дыпламатаў і што Стакгольм «не будзе вітаць» прыезд новага беларускага пасла ў Швецыю.

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных пракаментаваў сітуацыю наступным чынам: «Беларускі бок не выдварае шведскага пасла. Прынята рашэнне пра непрацяг яго акрэдытацыі».

«Дзейнасць Эрыксана была скіраваная на разбурэнне двухбаковых адносін», — мяркуе Савіных. Ён падкрэсліў, што рашэнне адносна Эрыксана ляжыць у плоскасці двухбаковых, а не беларуска-еўрапейскіх адносін.

Кіраўнік праўладнага аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка запэўніваў у эфіры беларускага тэлебачання, што Эрыксан «вёў падрыўную працу на тэрыторыі нашай краіны, выдаваў грошы радыкальным апазіцыйным групоўкам».

«Высылка шведскага пасла рэжымам Лукашэнкі з'яўляецца грубым парушэннем нормаў адносін паміж дзяржавамі, — гаворыцца ў заяве Міністэрства замежных справаў Швецыі, размешчанай на сайце ведамства. — Абвінавачванні супраць амбасадара не маюць пад сабою грунту. Швецыя ніколі не хавала той факт, што яна падтрымлівае дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі, а амбасадар Эрыксан з усёй сур'ёзнасцю і адданасцю падтрымліваў дадзеную палітыку Швецыі».

Стэфан Эрыксан працаваў у Мінску з верасня 2005 і быў адным з найлепшых еўрапейскіх экспертаў па Беларусі. Спачатку ён быў кіраўніком аддзялення амбасады Швецыі, а ў чэрвені 2008 стаў першым паслом Швецыі ў Беларусі. Пры ім пасольства ўехала ў новы будынак і пашырыла сваю працу.

Эрыксанам у Мінску многія захапляліся, бо ён дасканала гаварыў па-беларуску і шмат рабіў для падтрымкі беларускай культуры.

Нагадаем, што 14 ліпеня шведская спявачка Ларын, пераможца сёлетняга «Еўрабачання», пасля свайго выступу ў Віцебску на «Славянскім базары» ў будынку шведскай амбасады сустрэлася з жонкай палітвязня Алеся Бяляцкага Наталляй Пінчук, праваабаронцамі і журналістамі. Яна падпісалася пад петыцыяй аб забароне смяротнага пакарання ў Беларусі.

Варта адзначыць, што Швецыя паслядоўна падтрымлівае рух за грамадзянскія правы і нацыянальнае вызваленне ў Беларусі. У прыватнасці, яны дапамагаюць адзінаму беларускамоўнаму тэлеканалу «Белсат» і ЕГУ. Калі пасля выбараў 2010 улады ажыццявілі пагром апазіцыі, міністр Більт разам са сваімі нямецкім, польскім і чэшскім калегамі выступіў з рэзкім артыкулам пратэсту ў еўрапейскіх СМІ.

Найбольшае раздражненне беларускага рэжыму выклікала дзёрзкая акцыя групы шведскіх грамадзян 4 ліпеня. Яны з рызыкай для жыцця праляцелі ў паветраную прастору Беларусі і скінулі на Мінск з лёгкаматорнага самалёта плюшавых мядзведзікаў з заклікамі да свабоды слова. Выглядае, што гэта была акцыя групы энтузіястаў, да якой шведская дзяржава дачынення не мела. Тым не менш, ад лукашэнкаўскіх ідэолагаў загучалі заклікі «пакараць Швецыю».

Высылка шведскага пасла можа прывесці да паўтору беларуска-еўрапейскай дыпламатычнай вайны вясны гэтага года.

**Мікола Бугай**



**Падрыўная дзейнасць Стэфана Эрыксана**

- Размаўляў па-беларуску.
- Арганізаваў канцэрт гурта NRM у Стакгольме. Асабіста зрабіў падрадкоўнік тэкстаў песень на шведскай мове.
- Дні шведскага кіно ў кінатэатрах.
- Пры дапамозе пасольства па-беларуску выйшлі «Малы і Карлсан», «Піпі доўгая панчоха», тры кнігі пра Мумітроляў і іншых.
- Арганізоўваў адукацыйныя візіты ў Швецыю для прадстаўнікоў ВНУ, журналістаў.
- Спрабаваў прывесці шведскі бізнес у Беларусь.
- Пераклаў на шведскую творы Быкава і Арлова.

**Пасол Эрыксан працаваў у Мінску ад 2005 года і быў адным з найлепшых еўрапейскіх экспертаў па Беларусі. У нацыянальным касцюме Стэфан Эрыксан вітаў гасцей на Дні Швецыі ў чэрвені. У такім самым строі ён уручаў даверчыя граматы Лукашэнку.**

**Карлсан/Эрыксан яшчэ вернецца**

Такі зварот да беларускіх сяброў дыпламат змясціў у Фэйсбуку.

«Дарагія сябры! Я ўжо зразумеў, што ніяк не паспею ўсім даць належны адказ на вашыя словы падтрымкі ў гэтым няпростым для мяне часе.

Я не хацеў апынуцца ў гэтай сітуацыі і памяняў бы вашу пахвалу на магчымасць працаваць у Беларусі і з вамі сустракацца! Ваша падтрымка, канечне, мяне вельмі суцешвае і грэе. Я вам шчыра ўдзячны!

Наўрад ці я заслугоўваю вашай пахвалы, бо ўрэшце я рабіў сваю працу, якую вельмі любіў і стараўся выконваць сумленна.

Мабыць, Беларусь мяне натхніла зрабіць трохі больш, чым павінен быў, але гэта тады ваша заслуга!

Калі чытаю вашыя каменты, складваецца амаль уражанне, што вы мяне ўжо пахавалі… Калі ласка, рана мяне хаваць! Карлсан/Эрыксан яшчэ прыляціць! Да сустрэчы!

Дабрыня пераможа! Жыве Беларусь!»

**Стэфан Эрыксан**

**Шушкевіч: Нават у СССР не высылалі пасла ФРГ, калі прыляцеў Руст**

«Заўважце, што Савецкі Саюз не высылаў амбасадара ФРГ, калі Руст прыляцеў на Красную плошчу. Я бачыў гэты самалёт, быў там побач. Ім такая дурнота не магла прыйсці ў галаву», — адзначыў першы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

**«Ніякіх кантактаў з Эрыксанам у нас не было.** Як мы ўжо неаднаразова падкрэслівалі, мы не кантактавалі ні з кім на тэрыторыі Беларусі», — адзначыў Кромвел, адзін з арганізатараў мядзведжага дэсанта 4 ліпеня.

**Якаўлеўскі: Эрыксану выдалі «абразлівую» трохмесячную турыстычную візу**

«Гэта проста прыпала на падзеі са шведскім самалётам, — мяркуе аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — Але ўжо не сакрэт, што Эрыксан атрымаў "абразлівую" візу — турыстычную, на тры месяцы. Мне гэта даўно стала вядома, але я не мог пра гэта ўголас гаварыць. Думаю, што гэты тэрмін і скончыўся».

## Пяць фактаў пра пасла Стэфана Эрыксана

**Якому не падоўжылі** акрэдытацыю.

### 1. Валоданне беларускай мовай

Вядома, што ўсім ён запомніўся сваёй бездакорнай мовай. «Для мяне вывучыць беларускую было натуральнай патрэбай, ва ўсіх краінах, дзе працаваў, вывучаў мовы», — казаў сп. Эрыксан. Здаецца, натуральная рэч, але не ў Беларусі. Таму і прыходзілася Стэфану выслухоўваць мноства кампліментаў у свой бок.

Эрыксан не толькі размаўляў паўсюль публічна па-беларуску, але і перакладаў з нашай мовы на шведскую творы Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова. Пры ягонай падтрымцы выйшлі класічныя кнігі шведскай літаратуры на нашай мове.

Некалькі разоў Эрыксана запрашалі на дзяржаўнае тэлебачанне, дзе вядучыя гаварылі па-расейску, а Эрыксан — па-беларуску. Напэўна, праз Эрыксана шмат хто з нашых суайчыннікаў задумаўся: калі швед можа, то чаму мы — не?

### 2. Упершыню трапіў у Мінск у 1984

«Я быў тады на стажыроўцы ў Маскве і вырашыў наведаць Мінск. Беларусь была абсалютна закрытай савецкай рэспублікай», — адзначаў дыпламат.

Увогуле, шведскі пасол — заўзяты падарожнік. Ён аб'ездзіў амаль усю краіну. «Быў некалькі разоў у Гродне, Віцебску, Пінску, Полацку. Нечакана Бабруйск аказаўся вельмі цікавым. Канечне, Навагрудак, Мір, Нясвіж, Белавежская пушча».

«Малады фронт» нават уручыў паслу прэмію «Люблю Беларусь». Стэфан пры ўручэнні іранічна адзначыў: «Я падазраваў, што люблю Беларусь. Цяпер ведаю гэта дакладна».

### 3. Хадзіў на суды і мітынгі

У першыя хвіліны пасля разгрому штаба кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева туды накіраваўся пасол Эрыксан. «Як я зразумеў, адбывалася мірнае шэсце, удзельнікі якога былі жорстка збіты спецназам. Гэта вельмі засмучае», — сказаў ён 19 снежня 2010.

Эрыксан сам хадзіў на многія суды над прадстаўнікамі апазіцыі, каб на свае вочы пабачыць, ці справядлівыя яны. Некаторыя іншыя дыппрадстаўніцтвы абмяжоўваліся дарадцамі. Эрыксан назіраў на свае вочы за большасцю вулічных акцый.

Пытанне правоў чалавека заўсёды стаяла для Швецыі адным з галоўных. Разам з тым, гэтая скандынаўская краіна імкнулася, каб Беларусь не трапляла ў большую залежнасць ад Расіі. Праз гэта і ўзнікла праграма «Усходняе партнёрства», адным з лакаматываў якой была Швецыя.

### 4. Спрабаваў прывесці шведскі бізнес у Беларусь

З гэтай мэтай у 2008 нават быў арганізаваны ў Стакгольме эканамічны семінар. «На сустрэчы прыйшло бізнесменаў больш, чым я чакаў», — адзначыў тады дыпламат.

Шведскі капітал прысутнічае ў Беларусі, але зусім не ў тых аб'ёмах, якіх бы хацелася. Часта шведаў палохае палітычная сітуацыя ў краіне.

### 5. Хваліў беларускае піва і гарэлку

Стэфан Эрыксан казаў, што Стакгольм наведваў прыкладна раз на два месяцы. Сваю кватэру ў Швецыі ён здае, а мэблю перавёз у Беларусь. Цяпер вось не ведае, як вывезці назад. Разам з ім у Мінску была і сям'я.

«Шведу някепска жывецца ў Беларусі. Ежа не так ужо і адрозніваецца. Беларуская гарэлка і піва не горшыя за еўрапейскія. І клімат падобны. Ёсць падабенства між святамі. У нас існуе свята ў сярэдзіне лета, у вас — Купалле. У вас у лістападзе Дзяды, у нас Дзень усіх святых. Беларусь для мяне не экзатычная краіна, а еўрапейская».

**Зміцер Панкавец**

# Апазіцыя вылучыла 150 кандыдатаў, але мала хто з іх збірае подпісы

**Выключэнні** — Аляксандр Мілінкевіч, Іван Шэга, Міхась Пашкевіч.

Выглядае, што апазіцыя пры жаданні можа закрыць абсалютна ўсе выбарчыя акругі на хуткіх парламенцкіх выбарах. Хаця большасць выбрала шлях вылучэння ад партыі, а не збор подпісаў.

У лідарах сярод вылучэнцаў АГП — 57 чалавек. Сярод іх не толькі кіраўніцтва партыі, але і іншыя вядомыя людзі: тэлевядучая Зінаіда Бандарэнка, былы кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч, маці палітычных зняволеных Валянціна Алінвіч і Людміла Мірзаянава, былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў.

Праўда, сваіх вылучэнцаў лібералы нават не называюць кандыдатамі, а спікерамі. Да моманту галасавання прадстаўнікі АГП здымуцца, толькі выкарыстаюць момант для легальнай працы з людзьмі і агітацыі. Ад АГП таксама вылучыліся чатыры прадстаўнікі незарэгістраванай БХД. Хадзкі будуць інфармаваць пра байкот.

Партыя БНФ збіраецца прыняць канчатковае рашэнне аб фармаце ўдзелу 15 верасня. Тым часам на з'ездзе франтаўцы вылучылі 38 кандыдатаў. Сярод іх — Аляксей Янукевіч, Рыгор Кастусёў. Подпісы збіраюць нямногія. Напрыклад, доктар Іван Шэга са Слоніма. За два тыдні яму ўдалося сабраць больш за 600 подпісаў. Валеры Каранкевіч (Хоцімск) і Яраслаў Берніковіч (Наваполацк) ідуць не толькі па спісе БНФ, але і «Гавары праўду». Грамадзянская кампанія Някляева знайшла на выбары 27 штыхоў. Праўда, лідары захацелі застацца ў цені. Някляеў, Дзмітрыеў, Фядута не ўдзельнічаюць.

Затое Міхась Пашкевіч у Купалаўскай акрузе змог сабраць ужо 1400 подпісаў. Кажа, што следам за ім па кватэрах пайшла і дзейсная дэпутатка Валянціна Леваненка. Увогуле ж, не ўсе сябры «Гавары праўду» маюць раскошу быць вылучаным ад партыі, таму даводзіцца збіраць подпісы многім.

Пакуль «Гавары праўду» не заяўляла пра магчымасць здымання сваіх кандыдатаў, як і «Справядлівы свет». Посткамуністы выставілі 36 байцоў.

Апазіцыя мабілізавала унушальную колькасць кандыдатаў, але разам з тым не ва ўсіх іх ёсць эфектыўныя каманды, якія б маглі працаваць на вынік. Што даказвае і невялікая колькасць тых, што збіраюць подпісы.

У Мінску, ва Уруччы, добрую кампанію праводзіць Аляксандр Мілінкевіч. Штодня лідар Руху «За Свабоду» стаіць у пікетах па зборы подпісаў. Будуць яму дапамагаць і вядомыя асобы. За Мілінкевіча падпісаліся ўжо больш за 2 тысячы чалавек. На гэтым зборшчыкі не збіраюцца спыняцца.

ЗП



Аляксандр Мілінкевіч падчас збору подпісаў надзявае майку з Алесем Бяляцкім.

**Колькасць кандыдатаў у дэпутаты ад апазіцыйных структур**




# Новы кіраўнік пагранкамітэта — зямляк Зайцава

Сілавіком зноў прызначаны **не ўраджэнец Беларусі** — Аляксандр Боечка.

Аляксандр Лукашэнка прызначыў палкоўніка Аляксандра Боечку старшынёй Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, замест Ігара Рачкоўскага, звольненага за выпадак са шведскім медзведзіроўшчыкам.

Аляксандр Боечка нарадзіўся ў 1965 у Новаград-Валынскім раёне Жытомірскай вобласці (Украіна). Выходзіць, ён зямляк (па месцы нараджэння) старшыні КДБ Вадзіма Зайцава.

На Боечку працягнулася тэндэнцыя, калі на ключавыя сілавыя пасады прызначаюць ураджэнцаў суседніх краін, а не беларусаў. То бок тых людзей, якія не могуць удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах паводле заканадаўства.

Міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч нарадзіўся ў Луганскай вобласці. Ягоны папярэднік Анатоль Куляшоў прыйшоў на свет у Азербайджане, а Уладзімір Навумаў — у Смаленскай вобласці.

Ва Украіне нарадзіліся цяперашні і папярэдні старшыні КДБ Вадзім Зайцаў і Юры Жадобін (цяпер — міністр абароны). З Расіі кіраўнік лукашэнкаўскай службы бяспекі Андрэй Уцюрын. Уручанскім спецназам камандуе Хазалбек Атабекаў. Нават міністрам МНС прызначаюць ураджэнца Рэспублікі Комі Уладзіміра Вашчанку. А вось Ігар Рачкоўскі быў са Смаргоні.

Адукацыю Боечка таксама атрымліваў не ў Беларусі. У 1986 ён скончыў Тбіліскае вышэйшае артылерыйскае каманднае вучылішча, у 1999-м — Акадэмію Федэральнай пагранічнай службы Расійскай Федэрацыі, у 2009 годзе — Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных Сіл РФ.

У органах памежнай службы Аляксандр Боечка з 1986. Да прызначэння старшынёй Дзяржаўнага пагранічнага камітэта працаваў намеснікам начальніка галоўнага ўпраўлення рэжыму і арганізацыйнага забеспячэння — начальнікам арганізацыйна-інспектарскага аддзела — сакратаром калегіі ДПК. То бок атрымліваецца, што ён скокнуў у кар'ернай лесвіцы праз некалькі прыступак адразу.

Варта адзначыць, што амаль ніколі на першыя ролі Боечка не выходзіў. Напрыклад, на сайце Дзяржпагранкамітэта ёсць толькі адна спасылка на яго імя. У сакавіку летась ён атрымаў прыз «Кіраўніку за вернасць спорту». У 2005 Лукашэнка ўзнагародзіў Боечку медалём «За бездакорную службу» I ступені.

Аляксандр Боечка 2,5 года адслужыў у Афганістане. Прычым кажа, што вызваўся добраахвотнікам. Трапіў туды адразу пасля Тбіліскага вучылішча. Камандаваў у Афгане ўзводам і батарэяй. Назад вярнуўся ў 1989. Пасля вайны служыў у Гродзенскім і Лідскім пагранатрадах.




Зміцер Панкавец



# Прэзідэнтам Чэхіі можа стаць чалавек, цела якога на 90% у татуіроўках

**Прафесар Уладзімір Франц** пацвердзіў свой удзел у выбарах.

Ён з'яўляецца адным з найлепшых чэшскіх кампазітараў і мастакоў сучаснасці. На сённяшні дзень сп. Франц працуе выкладчыкам у пражскай Акадэміі тэатральнага мастацтва. Уладзімір Франц напісаў музыку да больш чым 140 спектакляў. Неаднаразова перамагаў у розных конкурсах.

Прэзідэнцкія выбары ў Чэхіі маюць адбыцца ў сярэдзіне студзеня наступнага года. Для таго каб стаць кандыдатам, Францу патрэбна сабраць 50 тысяч подпісаў. Упершыню грамадзяне Чэхіі самі будуць галасаваць за новага прэзідэнта, раней яго абіраў парламент.

Франц вядомы не толькі сваімі талентамі, але арыгінальным выглядам. 90% ягонага цела пакрыта татуіроўкамі. Сам Франц не турбуецца з гэтай нагоды. **«Галоўнае, што пад скурай, а не на ёй», — кажа прафесар.** Ён шчыра прызнаецца, што не мае выбарчай праграмы.

У групе ў Фэйсбуку ў падтрымку Уладзіміра Франца налічваецца больш за 9 тысяч прыхільнікаў.

ЗП

# Вырасла пенсія — пайшла ўверх камуналка

**Падаражэлі электрычнасць, газ, тэхабслугоўванне кватэраў, пошта.**

Выконваючы патрабаванні Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, улады чарговы раз павялічылі кошт жыллёва-камунальных паслуг. З 1 жніўня тэхабслугоўванне жылых дамоў, якое часцяком складае каля траціны ўсёй кватэрплаты, падаражэла на 27%, а электраэнергія — на 24%. Вырас кошт і іншых паслуг, напрыклад, за газ давядзецца плаціць на 12% больш, а за карыстанне ліфтамі даплачваць па 500 рублёў з чалавека.

Паступовы рост камуналкі — адна з умоваў выдзялення Беларусі чарговых $440 мільёнаў крэдыту ЕўрАзЭС. Прычым менавіта камуналку і тарыфы на транспарт урад пакуль што не рашаецца павысіць да патрабаванага ўзроўню. Летась праз дэвальвацыю яны ў даляравым выражэнні патаннелі, а цяпер наганяюць упушчанае. Напрыклад, грамадскаму транспарту трэба падаражэць яшчэ як мінімум на 20%. Так ці інакш, але ЕўрАзЭС у асобе Расіі вырашыў заплюшчыць вочы на невыкананыя абяцанні беларускага ўрада.

Тым часам шчодрая рука бюджэту вырашыла «кампенсаваць» бюджэтнікам і пенсіянерам дадатковыя страты на камуналку. Павелічэнне пенсій ужо адбылося, ажно на 17%. Падымуць у верасні і заробкі. Па словах Аляксандра Лукашэнкі, з 1 верасня сярэдні заробак па краіне ў бюджэтнай сферы складзе 3,2 мільёна рублёў.

**Ягор Марціновіч**

**Пошта — плюс 60%**

З 10 жніўня падаражэе перасылка ўнутраных простых адпраўленняў — паштовых картак, лістоў і бандэроляў. Адправіць адрасату паштовую картку будзе каштаваць ужо 800 рублёў, такую ж суму давядзецца заплаціць за перасылку ліста ці бандэролі масай да 20 грамаў. За кожныя наступныя 20 г масы трэба будзе даплаціць 100 рублёў.

## Свінакомплекс Чыжа раскалоў Валожыншчыну

**Мільянер збудуе найбольшую свінаферму краіны па дацкай тэхналогіі.**

Вясной гэтага года на Валожыншчыне СТАА «Данпрад», блізкае да Юрыя Чыжа, пачало будаваць свінакомплекс агульнай плошчай 2,5 тысячы гектараў на 110 тысяч галоў.

Будоўля закранае вёскі Даўгулеўшчына (з хутарамі), Канюшаўшчына (радзіма экспрэм'ера Вячаслава Кебіча), Макрычаўшчына, Лайкоўшчына, Сугвазды, Пугачы (радзіма паэта Віктара Шніпа), Ласокіна, Цыбуты. Дарэчы, у гэтых мясцінах мае хутар і лідар гурту «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі. За 5 км ад будаўніцтва пачынаецца знакамітая Налібоцкая пушча.

Звычайна вакол такіх вялікіх свінакомплексаў на некалькі кіламетраў вакол стаіць моцны, уедлівы смурод. Ён убіваецца ў скуру, валасы. Дзіва што: гэтулькі свіней у адным месцы. Можа, дацкія тэхналогіі і даюць магчымасць утрымліваць дзюдзяў у чысціні — датчане сусветныя лідары ў свінагадоўлі. Але ў Беларусі заўжды паўстае пытанне з датрыманнем тэхналогіі.

Нават такія гранды свіной індустрыі, як італьянцы, аддаюць перавагу комплексам меншага памеру, бо ўздзеянне гэткага гіганта на экалогію празмернае.

Датчане прадугледжваюць санітарную зону ўсяго 1 км, нягледзячы на памеры комплексу. Праўда, некаторыя хаты ў вёсках нават у гэтую зону трапляюць. Гэта выклікае трывогу людзей. Іншыя, наадварот, за. Мясцовым будзе праца! Дый перадавая тэхналогія вабіць.

Па словах начальніцы аддзела архітэктуры і будаўніцтва Валожынскага раёна Таццяны Чупрыс, навукова-вытворчая фірма «Экалогія» ўжо дала станоўчае экалагічнае заключэнне на будаўніцтва. Згодна з ім, уздзеянне свінафермы на прыроду і чалавека ацэньваецца як «прымальнае».

Ці здольныя змяніць сітуацыю грамадскія слуханні, якія могуць адбыцца ў раёне? «Пытанне аб пераносе будоўлі не стаіць, толькі пра ацэнку ўздзеяння і наступстваў», — кажа чыноўніца.

**Аксана Рудовіч, Сяргей Гезгала**

Грамадскія слуханні па свінакомплексе адбудуцца толькі ў выпадку, калі нехта да 14 жніўня падасць на іх заяўку ў Валожынскі райвыканкам. Дасыць заявы адвольнай формы кшталту «Прашу правесці грамадскія слуханні з нагоды будаўніцтва свінакомплексу». Адрас райвыканкама: 222357, Валожын, пл.Свабоды, 2.

## Куды пайшоў працаваць Сяргей Румас?

**На Банк развіцця пераклалі фінансаванне дзяржпраграмаў.**

Былы віцэ-прэм'ер Сяргей Румас 31 ліпеня атрымаў новую пасаду — старшыні праўлення Банка развіцця Рэспублікі Беларусь. Гэта, здавалася б, паніжэнне. Чым зараз будзе займацца фінансіст?

Загад аб стварэнні Банка развіцця быў дадзены кіраўніком дзяржавы год таму, у чэрвені 2011 года. Гэтага кроку патрабавалі міжнародныя крэдыторы краіны. Гэта будзе не банк у класічным разуменні. Асноўная мэта арганізацыі — фінансаванне дзяржаўных праграм.

Раней гэты груз вісеў на «Беларусбанку» і «Белаграпрамбанку», кіраўніком якога, дарэчы, раней працаваў Румас. Ільготныя крэдыты калгасам ды заводам і выдзяляліся асаблівым чынам, і вярталіся не заўсёды, гэта ўскладняла ўлік. Апроч таго, на Банк развіцця пераклалі абслугоўванне дзяржаўных пазык, узятых у замежнікаў.

Заснавальнікамі банка сталі Нацбанк (5%) і Саўмін (95%), якія разам унеслі ў статутны фонд каля $2,5 мільёна. Цікава, што, паводле афіцыйнай справаздачнасці, Банк развіцця паспеў зарабіць за 2011 год каля $4 мільёна. А працавалі ў ім усяго тры чалавекі.

**ЯМ**

### Сцісла

**Растваральнікі пад пагрозай**

Схема беларускага экспарту нафтапрадуктаў, атрыманых з расійскай нафты, пад відам растваральнікаў можа аказацца пад пагрозай. Масква хоча ўвесці пошліну на растваральнікі, якая пакуль што раўняецца нулю. Гэта забярэ ў Беларусі магчымасць зарабляць дадатковыя сотні мільёнаў даляраў штомесяц. Апроч таго, з 24 ліпеня былі прыпыненыя пастаўкі нафтаасновы для растваральнікаў у Беларусь. У жніўні яны аднавіцца не будуць.

**Чыж заключыў кантракт на $4,4 мільярда**

Кіраўнік кампаніі «Трайпл» Юрый Чыж дамовіўся з «Башнафтай» на экспарт нафтапрадуктаў. Па аб'ёмах аперацый ён выйшаў на ўзровень найбуйнейшых расійскіх нафтатрэйдараў. Раней «Башнафта» працавала ў Беларусі пераважна з іншым мільянерам з «чорнага спіса» Еўрасаюза, Анатолем Тарнаўскім.

**Другі рэйкавы аўтобус**

неўзабаве з'явіцца на маршруце Орша—Крычаў. Яго хуткасць складзе 120 км/г, у вагоне можа сесці адначасова 91 чалавек. Аўтобус-цягнік мае быць хуткасным, будзе спыняцца не на ўсіх станцыях. Яшчэ адзін такі такі ездзіць між Калінкавічамі і Хойнікамі.

**У Беларусь прыходзіць літоўская сетка крамаў**

Каля станцыі метро «Каменная Горка» ў Мінску на месцы крамы «Рублёўскі» адкрылася першая крама з замежнай сеткі Mart Inn. Мяркуецца, што ў найбліжэйшыя два гады ў Беларусі з'явіцца каля 30 крамаў з гэтай сеткі, прытым не толькі ў Мінску. Цяпер у планах адкрыццё крамы ў Фаніпалі. Кіраўніцтва сеткі не тлумачыць, чый капітал прадстаўлены ў бізнэс, аднак імаверна, што грошы ўкладаюць літоўцы.

**Новы абмен валюты з Кітаем**

Нацбанк рыхтуе чарговае своп-пагадненне па абмене нацыянальнай валютай з Кітаем. Папярэдняя дамова на $3 мільярды была заключаная ў 2009 годзе, аднак з гэтай сумы быў выкарыстаны толькі $1 мільярд. Своп-пагадненні дазваляюць выкарыстоўваюць у гандлёвых адносінах паміж краінамі не даляр ці еўра, а нацыянальныя валюты.

**ЯМ**

### Фотафакт




**Дэкану юрфака і швачцы прапануюць аднолькавыя заробкі**

Ад 5 мільёнаў кожнаму. Такая абвестка аб працаўладкаванні змешчана на адной з тумбаў Мінска.

# **Калодзішчы:** цыганскі аграгарадок пад Мінскам

Слабая інфраструктура, але вялікія перспектывы.

Блізкасць да Мінска і наладжанае транспартнае злучэнне робяць Калодзішчы адным з папулярных прыгарадаў сталіцы. Тут жыве каля дваццаці тысяч чалавек — як у невялікім раёне. Побач беларускія мільянеры Анатоль Тарнаўскі і Юрый Чыж збіраюцца пабудаваць фактычна новы горад яшчэ на 200 тысяч беларусаў, што павісіць у цане калодзішчанскія дамы. Калі іх ідэі будуць рэалізаваныя, гэта дасць выдатныя перспектывы для мясцовага дробнага бізнэсу, які пакуль можа атрымаць льготныя крэдыты для вяскоўцаў на развіццё прадпрымальніцтва.

Уражанне псуюць неразвітая інфраструктура і негатыўны імідж крымінальнага пасёлка. Год таму Калодзішчы афіцыйна сталі «аграгарадком», аднак гэта пакуль не прынесла ніякага плёну. Зрэшты, пра ўсё па парадку.

### Бязмежныя Калодзішчы

Ад краю Калодзішчаў да цэнтра Мінска ўсяго 15 хвілін на машыне. Тыя ж, хто карыстаецца грамадскім транспартам, за гэты час паспяваюць даехаць на аўтобусе да канцавой станцыі метро. Зрэшты, столькі ж трацяць на дарогу жыхары многіх спальных раёнаў у межах горада. Прыгарадныя аўтобусы, маршруткі, электрычкі — у Калодзішчах ёсць грамадскі транспарт на любы густ. Многія абіраюць менавіта яго, бо дарогі ў пасёлку, мякка кажучы, няякасныя.

Сказаць, дзе пачынаюцца і дзе сканчаюцца Калодзішчы, немагчыма. Мала таго, што чыгунка разразае аграгарадок на дзве часткі, фактычна ізаляваная адна ад адной, дык яшчэ ў яго склад уваходзяць некалькі катэджных пасёлкаў, кожны з якіх жыве сваімі праблемамі. Пакуль у «Калодзішчах-Палігоне» і ва «Утульным куце» ўпарта супрацоўляюцца меркаванаму будаўніцтву мікрараёна Юрыя Чыжа, у паўночных Калодзішчах пра гэта змаганне многія нават і не чулі. На поўначы, каля самай трасы Мінск—Масква, абураныя дольшчыкі патрабуюць хутчэй выдаць ім кватэры, а ў цэнтры пасёлка жыхары не адразу ўзгадваюць, дзе будуюцца гэтыя гаротныя шматпавярховікі. Чалавеку, які заблукаў на вуліцах Калодзішчаў, трэба будзе моцна пастарацца, каб пачуць параду, як яму знайсці патрэбную дарогу.

### Нястрашныя цыганы

Праблемы, якія яшчэ нядаўна аб'ядноўвалі ўсіх жыхароў Калодзішчаў, а цяпер палохаюць тых, хто збіраецца пераехаць у пасёлак, — крымінал, наркотыкі і цыганская меншасць. Прыгарад спрадвеку лічыўся рассаднікам зла пад бокам у Мінска. Яшчэ гадоў 10—15 таму крымінальныя зводкі стракацелі трагічнымі паведамленнямі з Калодзішчаў. Цяпер сітуацыя часткова змянілася, хоць навіны пра знішчаныя наркалабараторыі і затрыманых наркакур'ераў сустракаюцца дагэтуль.

Жыхары Калодзішчаў кажуць, што кожны чацвёрты жыхар пасёлка — цыган. Але праблем з імі няшмат. Пра ўплыў гэтай нацыянальнай меншасці на пасёлак нагадваюць хіба што велічныя маёнткі баронаў ды асцярожныя словы мясцовых прадпрымальнікаў: маўляў, адкрыць тут бізнэс атрымаецца далёка не ў кожнага. Пэўны піетэт беларусы пры гэтым захоўваюць. Цыган, які прадаваў кавуны на цэнтральным скрыжаванні горада, адышоў у адзін з суседніх дамоў папіць вады, пакінуўшы без нагляду і тавар, і грошы. За дзесяць хвілін, пакуль яго не было, ніводны з дзясятка людзей на дарозе не рызыкнуў нават падысці да прылаўка.


Архітэктурнае ўпрыгажэнне Калодзішчаў — незвычайны пратэстанцкі храм.

### Адсутная інфраструктура

Базарчык, кіёскі на прыпынках і невялікія прадуктовыя крамы — вось і ўвесь набор спажывецкай інфраструктуры Калодзішчаў. У гіпермаркеты мясцовыя жыхары ездзяць у Мінск. Зрэшты, як і ў многія іншыя ўстановы.

Узяць хаця б паліклініку. Непасрэдна ў Калодзішчах можна знайсці тэрапеўта, стаматолага і гінеколага. Інакш трэба браць талончык у паліклініку ў Бараўлянах, перапоўненую сваімі пацыентамі. Дарога датуль — як мінімум 15 кіламетраў у адзін бок на машыне ці грамадскі транспарт з перасадкамі.

Два садкі і школа таксама не могуць прыняць усіх ахвотных. Зрэшты, многія бацькі самі не хочуць аддаваць сюды дзяцей, каб тыя не вучыліся разам з цыганамі, і таму гатовыя штодня вазіць іх у мінскія школы і гімназіі. Дарэчы, некалькі гадоў таму чыноўнікі разглядалі магчымасць пабудаваць у Калодзішчах першую ў краіне цыганскую школу, але ідэю не падтрымала сама нацыянальная меншасць.

Некалькі аддзяленняў банкаў, паштовыя аддзяленні, Дом культуры, дзве бібліятэкі — якая-ніякая інфраструктура ў Калодзішчах усё ж ёсць, але патрэбам жыхароў яна, відавочна, не адпавядае.

**Ягор Марціновіч**

**Як стаць калодзішчанцам?**

Калі раней Калодзішчы лічыліся бяскрайнімі абшарамі хаатычна раскіданых катэджаў і лецішчаў, то цяпер у пасёлку надзвычай актыўна вядзецца шматпавярховае будаўніцтва. Свае жыллёвыя кааператывы сфармавалі Нацыянальны Алімпійскі камітэт, Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных справаў. Трапіць у гэтыя дамы простаму смяротнаму складана, але знайсці адзінкавыя прапановы ў гэтых дамах можна. Ці звярнуцца да долевага будаўніцтва.

**Цэны на нерухомасць у Калодзішчах**

Квадратны метр у калодзішчанскіх навабудах каштуе крыху менш за псіхалагічную мяжу ў тысячу даляраў — каля $900—950. Гэта на чвэрць танней, чым у Мінску. А вось дыяпазон цэнаў на гатовыя дамы надзвычай шырокі. Катэджы могуць каштаваць ад $50 тысяч да паўмільёна даляраў.


Катэджавы пасёлак Калодзішчы стаў шматпавярховым аграгарадком.


У цэнтры Калодзішчаў — банк і міліцыя.


Дом цыганскага барона адметны сваімі скульптурамі.

# Параўнаем: прыгарадныя цягнікі Мінска і Чыкага

Беларусам ёсць чаму **павучыцца ў амерыканцаў.**

Беларускія «Гарадскія лініі» дзейнічаюць трошкі больш за год. Электрычкі адпрацавалі першыя месяцы ў тэставым рэжыме, выбіраючы аптымальны варыянт эксплуатацыі. За прыклад нам можна ўзяць працу прыгарадных цягнікоў Чыкага (ЗША).

Параўнаем ключавыя моманты ў арганізацыі працы абедзвюх чыгунак і паспрабуем адшукаць узор для пераймання.

### Продаж квіткоў

**Чыкага.** Купіць праязны на месяц можна на станцыі ў касе, замовіць у інтэрнэце або па пошце. Для апошняга трэба запоўніць анкету, якая ляжыць на адмысловым стале на станцыі і кінуць яе ў паштовую скрыню з надпісам Ticket by mail. Для аплаты выпісваецца чэк.

Квіток можна набыць у кандуктара. Ён будзе каштаваць на даляр даражэй. Калі на момант пасадкі касы зачыненыя, дадатковая аплата не бярэцца. Касы працуюць толькі ў гадзіны пік.

**Мінск.** Квіток на адну паездку можна купіць у касе. А таксама праз адмысловыя тэрміналы на чыгуначным вакзале ў Мінску, але толькі поўныя квіткі. Набыты ў кандуктара квіток у любым выпадку каштуе на 1200 даражэй. Гэта датычыць і пенсіянераў, і бацькоў маленькіх дзяцей.

### Праязныя

**Чыкага**. Існуе вялікая колькасць варыянтаў квіткоў, кошт якіх залежыць ад канчатковай станцыі. Пры гэтым, калі былі выкарыстаны не ўсе паездкі і білет больш не патрэбны, яго можна здаць і вярнуць грошы за нявыкарыстаныя паездкі. На два выходныя можна набыць квіток за $7 з безлімітнай колькасцю паездак.

**Мінск**. Можна набыць праязныя на месяц і дэкаду, на будні дні, імянныя. Ніякіх бонусаў у выглядзе кампенсацыі не выкарыстаных паездак і квіткоў выходнага дня ў нас няма.

### Кантроль

**Чыкага**. Квіткі правяраюць кандуктары. Праязныя і карэньчык ад праверанага квітка зашчэпліваюцца спецыяльнай металічнай пласцінай на падгалоўніку крэсла. Пустая пласціна — сігнал, што ў пасажыра няма ні квітка, ні праязнога.

**Мінск**. Квіткі правяраюць кандуктары і кантралёры. На квітках ставіцца штамп з надпісам «Мінск-Пасажырскі» і актуальная дата.

### Станцыі

**Чыкага**. Станцыі абсталяваныя кандыцыянерамі. У прыбіральнях абавязковыя кабінкі для інвалідаў, тэлефон-аўтамат, фантанчык для піцця.

**Мінск**. Новыя станцыі не маюць кандыцыянераў, адзіная станцыя з прыбіральняй для інвалідаў — «Ждановічы». Тут няма туалетнай паперы, фантанчыка і тэлефона.

### Чым адрозніваюцца цягнікі

У прадмесці Чыкага ездзяць двухпавярховыя цягнікі. Яны складаюцца з васьмі вагонаў, першы вагон — цеплавоз. У кожным вагоне адны дзверы па цэнтры.

У Мінску ездзяць электрычкі швейцарскай вытворчасці. Кожны цягнік складаецца з чатырох вагонаў. У двух цэнтральных па двое дзвярэй, у першым і апошнім па адных. Вагоны аднапавярховыя, цеплавоза няма.

**Сямён Печанко**















## У Мінску з'явіліся паляўнічыя за геямі

Гей з Ваўкавыска прыехаў па аб'яве аб знаёмстве, а яго сустрэлі **хлопцы ў масках.**

У Рэдакцыю звярнуўся Віталь Гуляк. «Я — гей», — пачаў ён з гэтага.

27 ліпеня ён дамовіўся сустрэцца ў Мінску з хлопцам, з якім пазнаёміўся ў сацыяльных сетках. У анкеце мінчука значыўся ўзрост — 18 гадоў. Але падчас перапіскі высветлілася, што толькі 16. Тым не менш, прызначылі спатканне. Калі Віталь чакаў знаёмца каля кінатэатра «Аўрора», да яго падбеглі некалькі чалавек. «Не менш за дзясятак», — удакладняе ён. Некаторыя з іх былі ў масках. У аднаго ў руках быў фалаімітатар, іншы ўсё здымаў на відэа.

Віталя схапілі, некалькі разоў ударылі па твары. Гэта ўсё бачна на відэа, якое выставілі ў інтэрнэце. Малады чалавек пачаў клікаць на дапамогу, але ніхто з мінакоў не адрэагаваў. Экспертыза пасля зафіксавала ўдар сківаці.

З Віталём размаўлялі некалькі хлопцаў. Яны апелявалі, што ён — педафіл і прапаноўваў інтым 16-гадоваму падлетку. Малады чалавек адзначае, што такая размова сапраўды прысутнічала ў сацсетках. Але ні пра які гвалт не вялося. Віталь не хавае сваёй нетрадыцыйнай арыентацыі. Але не педафіл. І катэгарычна асуджае педафілаў.

Крымінальным кодэксам РБ адказнасць за сэкс з непаўналетнімі прадугледжваецца толькі ў тым выпадку, калі гэтая асоба не дасягнула 16 гадоў альбо ў выпадку гвалтоўных дзеянняў.

У выніку ён падаў заяву ў міліцыю. Там да сітуацыі паставіліся сур'ёзна. Не выключаюць, што можа быць заведзена нават крымінальная справа. А пакуль міліцыя праводзіць праверку, справа аб адміністрацыйных правапарушэннях не кваліфікаваная згодна з пэўнымі артыкуламі. Могуць прысутнічаць некалькі артыкулаў: дробнае хуліганства, нанясенне лёгкіх цялесных пашкоджанняў, распаўсюджванне матэрыялаў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасці, абраза.




Віталь Гуляк.

Удзельнікі суполкі «Скураны мікрафон», што напалі на Віталя, пазіцыянуюць сябе як «паляўнічыя за педафіламі». У відэазвароце адзін з арганізатараў такога «палявання» кажа: «Чаму ў нас няма падстаў іх лавіць? ...Калі Госпад нешта робіць, няхай ён робіць гэтымі рукамі альбо рукамі такіх самых людзей, як і я. У праваахоўных органаў і так шмат задач стаіць па падаўленні злачыннасці. Будзем жорстка спыняць. Будзем жорстка паляваць. І ў нас на гэта ёсць сілы, дух і цвярозасць розуму».

Маладым людзям з суполкі — прыкладна па 25 гадоў (не ва ўсіх у акаўнтах пазначаны ўзрост). Імёны кіраўнікоў суполкі — адкрытыя, на іх старонках ёсць фотаздымкі. Адшукаць гэтых людзей нескладана.

Сітуацыя рэдкая. Дарослы чалавек прапануе інтым падлетку — вялікае пытанне маралі. Фармальна ўсё законна. Але невядома, чым могуць скончыцца ў псіхалагічным плане для непаўналетняга такія кантакты. І хто тады будзе адказваць. Закон жа не забараняе такую сувязь.

З другога боку, самасуд. Хлопцы хочуць засцерагчы дзяцей ад распусты. Але самі не ўсведамляюць, як гэта рабіць, не парушаючы закон.

У той жа час, рэдкі выпадак, калі гей у такой сітуацыі спрабуе абараніць свае правы.

**Кастусь Матушыч**

### Сціісла

#### Любоў Кавалёва дабіваецца вяртання запісаў сына

Яе паўторны зварот да старшыні КДБ Зайцава быў атрыманы ў камітэце 16 ліпеня. Адказу ўсё яшчэ няма. Улад Кавалёў быў прызнаны вінаватым і расстраляны за ўдзел у выбуху на станцыі метро «Кастрычніцкая».

#### На Скрыганава такі паклалі асфальтаваную дарожку

Амаль шыкоўную. Эпапея з асфальтаванай дарожкай на вуліцы Скрыганава завершана. Цяпер яна зроблена па правілах.

#### Навучанне ў Медуніверсітэце да 16 мільёнаў за год

Даражэй за ўсё ў вядучых ВНУ Беларусі каштуе падрыхтоўка стаматолагаў і прававедаў.

#### Замежная мова — абавязковы іспыт

Школьнікі ад наступнага года будуць абавязкова здаваць у 11 класе замежную мову. Такую пастанову прыняло Міністэрства адукацыі.

**ЛМ**

# Асаблівасці чэшскай разняволенасці

90% чэшак **адпачываюць топлес.** Расказвае беларус Аляксей Шыдлоўскі з Прагі.



70-гадовая бабуля з унукамі і маладая настаўніца — усе яны ігнаруюць верхнюю частку купальніка. Нават пераадзяваюць майткі, не заходзячы ў спецыяльную кабінку. Пры гэтым такія пляжы лічацца агульнымі, на іх ходзяць з дзецьмі. А літаральна праз 10 метраў ёсць і нудысцкія пляжы, дзе з адзення толькі тапкі.

Выхадцы з постсавецкіх краін рэагуюць на гэта ў асноўным негатыўна.

У Чэхіі існуе закон, паводле якога ад 14 гадоў ты можаш займацца сэксам з кім хочаш. Па ўсёй Празе, а таксама на мяжы з Аўстрыяй і Германіяй напоўніцу працуюць начныя клубы, па сутнасці, звычайныя публічныя дамы. Дарэчы, зусім нятанныя. Хаця афіцыйна прастытуцыя ў краіне не дазволеная, свая «вуліца чырвоных ліхтароў» ёсць.

Тут даўно сталі будзённасцю аднаполыя шлюбы.

Гэта не засмучае, хутчэй наадварот: ярчэй адчуваеш фарбы жыцця. Хаця першы час было нязвыкла ад лёгкай даступнасці таго, пра што ў нас прынята маўчаць. Але ёсць у Празе знаёмы беларус, які не ходзіць са сваімі дзецьмі-падлеткамі ў мясцовыя аквапаркі, бо... 14-гадоваму падлетку, мякка кажучы, няёмка адпачываць сярод паўголых красунь. Ездзяць купацца ў Польшчу.

І ў мяне расце маленькі сын, і можа, з часам мая ліберальнасць у гэтых пытаннях паменшае.

**Фотафакт**



**Лавандавыя палі ў Францыі.**

# Арганізатара аўстрыйскага адпачынку Лукашэнкі асудзілі на 5 гадоў

Хайнц Юнгвірт прызнаны вінаватым у незаконным прысвоенні **3,3 мільёна еўра.**



Суд над былым кіраўніком алімпійскага камітэта Аўстрыі пачаўся яшчэ ў маі, але вырак быў вынесены 31 ліпеня.

У 2002 Юнгвірт меў непасрэднае дачыненне да прыёму дэлегацыі з Беларусі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам і арганізацыі іхняга адпачынку ў Альпах. Публікацыі ў аўстрыйскіх СМІ пра той прыём далі штуршок для раскрыцця і іншых афераў кіраўніцтва НАК.

Як высветлілася ў ходзе слуханняў, шматтысячныя сумы «знікалі» з рахункаў Алімпійскага камітэта і часткова пераводзіліся непасрэдна на асабістыя рахункі Юнгвірта.

Паводле матэрыялаў справы, на выручаныя злачынным шляхам мільёны Юнгвірт набыў дзесяць коней для выездкі і манеж 70 на 20 метраў.

ЗП



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Малітва аб Літве

Пішу з Ніды, што на балтыйскім узбярэжжы Літвы, на Куршскай касе.

«Нешта нардычнае з японскім». Гэта пра Ніду. Жан-Поль Сартр.

«Сумная пустыня...» Гэтаксама пра Ніду. Надпіс на магіле Георга-Давіда Куверта, сціплага паштовага служачага, які «першым стаў саджаць лясныя дрэвы ў сумнай пустыні Ніды». XVIII стагоддзе...

Сартра, мабыць, уразілі гэтыя дрэвы — учэпістыя нізкарослыя сосны на высачэзных сыпучых выдмах. І тое — дзве Ніды ўжо пад пяском...

Сёння мая Ніда — скарбонка ўспамінаў, што кранаюць за душу.

Ну, як забыцца пра Стасю?

У залатым верасні 1968, якраз на тую хвіліну, калі нечакана сыпануў дождж і я стаяў, не ведаючы, куды ісці далей, яна павяла мяне на сваё падстрэшша, а бліжэй да ночы прынесла па рыпучай лесвіцы свечку: «Будзешь, як Пушькін...»

Стасі было недзе каля пяцідзесяці, яна жыла ў адзіноце і шмат піла. Аднойчы я спытаў у яе, чаму яна п'е. «Мужя ўпамінаю...»

Ці доўга здолее жыць чалавек са сваім мінулым — з бураломам у жахлівай далечыні, з нязвыклым для літоўскага вуха найменнем Комі? Роўна столькі, колькі трэба, каб, нарэшце, даведацца, з якой зямлёй перамяшаўся прах каханага мужа. Мужа, ковенскага інжынера, нацысты кінулі ў жудасны 9-ы форт за дапамогу яўрэям. Усё жыццё яна намагалася дазнацца пра ягоны лёс. І дазналася праз 30 гадоў ад... Генпракуратуры СССР: «...Ваш муж быў асуджаны... і пахаваны ў г. Ленінск-Кузнецкім Кемераўскай вобласці...» Пасля чаго памерла. Не ад гарэлкі, як палічылі суседзі, — ад непатрэбнасці далей жыць...

Наведаўшы яе магілу, я зняў пакойчык у Эдзіты з Ёнасам і маленькім, пяць ці шэсць гадоў, Рэмігіусам, у такой жа, як у Стасі, тыпова куршскай, пад чаротавым дахам, хаце.

Эдзіта працавала на метэастанцыі, чытала «Новый мир» і сусветную класіку на літоўскай мове. Ёнас піў.

Пра тое, што Ёнас піў, я даведаўся выпадкова, калі напрасіўся пайсці з ім на рыбацкім баркасе ў Куршскую затоку. Безумоўна, я прыхапіў з сабой пару бутэлек «Маскоўскай», мабыць, нават тры, бо іх было

### Чаму літоўцам усё ўдалося, а ў нас — не?

трое — Ёнас ды ўся ягоная брыгада з двух негаваркіх мужыкоў у шырокіх, з цяжкой гумы, куртках і высокіх ботах. Ледзь адплылі па цёмнай вадзе, Ёнас выставіў бутэлькі на стол...

Ёнас таксама памёр праз некалькі гадоў. І таксама ад гарэлкі. Так сказала Эдзіта.

Сёння я думаю, што Ёнас памёр ад немагчымасці прадбачыць будучыню для Рэмігіуса. Што, уласна кажучы, і было для яго немагчымасцю жыць.

Рэмігіус прадбачыў сваю будучыню сам.

Я быў сведкам, як пачыналася яна восенню аднаго з апошніх 80-х гадоў мінулага стагоддзя, не памятаю ўжо, якога дакладна. Памятаю толькі халодную, у пене, сінь Балтыкі, пару лебедзяў, што праляцелі над самым морам, і сотню, а мо і тысячу падлеткаў, юнакоў і дзяўчат, што апусціліся на калені ў вільготны берагавы пясок і паўтаралі за пастарам словы малітвы. Потым падняліся, узяліся за рукі і заспявалі сваю літоўскую песню, хістаючыся ў такт мелодыі і балтыйскай хвалі. Я ўбачыў Рэмігіуса, пайшоў да яго, правальваючыся ў пясок, ланцуг разамкнуўся. Я стаў паміж ім і дзяўчынай у вязанай шапачцы і, ні слова не разумеючы, таксама нешта падпяваў, намагаючыся пераадолець свіст ветру.

На вартаўнічай вышцы яшчэ савецкай памежнай заставы нікога, здавалася, не было. Толькі час ад часу ў цёмным прахоне адсвечваў сонечны бляск...

...Апошні раз я бачыў Рэмігіуса летась, калі, не маючы сілы забыцца на Ніду, я зноўку наведаў яе, амаль не пазнаўшы ў былым рыбацкім паселішчы еўрапейскі курорт — нават стала трошкі шкада... Рэмігіус завітаў да маці па дарозе ці то ў Аўстралію, ці то ў Кенію. Малады доктар, навуковец, менеджар буйной медыцынскай фірмы свабодна працуе па ўсім свеце. Расказваючы пра свае вандроўкі, сваю працу і жыццё, ён увесь час паўтараў гэта слова — СВАБОДНА. Я запытаўся ў яго, аб чым яны маліліся тады на беразе мора. «Аб Літве... Гэта старадаўняя малітва: «...мы разам дзякуем Богу за дар свабоды...»

Вось тады я і пачуў сугучча: малітва — Літва...

Час ад часу ўсплывае з нашай падсвядомасці пытанне да саміх сабе: чаму літоўцам усё ўдалося, а нам — не? Мой адказ для сябе вельмі просты: каб усё ўдалося, трэба гэтага вельмі моцна хацець.

І не забывацца на малітву.

*kamerton_41@mail.ru*

Упершыню нашы ўзялі медалі ў **плаванні і тэнісе**.

# Не дваццаць пяць, але таксама добра

Ясна, што задача па заваяванні 25 узнагарод на лонданскай Алімпіядзе для беларусаў невыканальная. Але гэта не значыць, што спаборніцтвы праходзяць правальна. Зусім не. У сваю сілу. Дзесьці трошкі шанцуе нам, дзесьці — супернікам.

Міністр спорту Алег Качан, відаць, будзе незадаволены вынікам. У інтэрв’ю «Беларусь-1» ён казаў, што «кіраўнік дзяржавы зрабіў усё магчымае для добрых вынікаў спартсменаў». Во як, не міністэрства, не спонсары.

На момант здачы нумара ў друк у скарбонцы нашай зборнай было восем узнагарод (3 золаты, 2 срэбры, 3 бронзы). Паказчык сувымерны з іншымі сярэднееўрапейскімі краінамі.



### Напрыканцы кар’еры

За Максіма Мірнага сапраўды радасна. Столькі гадоў ён аддаў зборнай Беларусі і напрыканцы кар’еры заваяваў залаты медаль Алімпіяды. Апошнія гады Макс не гуляў у адзіночным разрадзе, а толькі ў пары. Разам з канадцам Даніэлем Нестарам ён лічыцца наймацнейшым у свеце. Але на Алімпіядзе з канадцам не згуляеш. Затое ў Лондане ўпершыню з’явіўся на Гульнях мікст. Віка Азаранка — індывідуальная моцная спартсменка, але і ў пары апынулася вельмі карыснай.

**Зміцер Панкавец**



### Рыбак і маўчун

Сяргей Мартынаў у стральбе з дробнакаліբернай вінтоўкі змагаўся больш з сабой, чым з супернікамі. У кваліфікацыі ён выбіў 600 балаў з 600 магчымых. А ў фінале ўсталяваў новы сусветны рэкорд — 705,5 бала. Мартынаў працуе інструктарам па стральбе ў войску. Ён не надта любіць даваць інтэрв’ю, заўсёды засяроджаны. Нават пасля таго, як стаў алімпійскім чэмпіёнам, толькі выціснуў з сябе ўсмешку. А любімы занятак Мартынава — рыбалка.



### Аматарка гісторыі ВКЛ

У жаночым штурханні ядра было пытанне: Надзея Астапчук ці Валеры Адамс. Беларуска і новазеландка недасягальныя для канкурэнтак. Адамс была чэмпіёнкай мінулай Алімпіяды. А вось у Лондане Астапчук не пакінула ёй шанцаў. Чатыры разы яна штурхала ядро на адлегласць звыш 21 метра. Астапчук з вёскі Вялікія Арлы на Століншчыне. Вучыцца на гістфаку БДУ, ёй падабаецца гісторыя ВКЛ. Некалі разоў яна пазітыўна выказвалася пра беларускую мову.



### Рыбка срэбраная

На Сашу Герасіменю ў плаванні вельмі спадзяваліся. Асабліва на яе каронку — 100 метраў вольным стылем. У выніку на гэтай адлегласці, які ўдвая карацейшай, Аляксандра была другой. Не змагла адужаць толькі галандку Раномі Кромавіджоджа. Герасіменю называюць «залатой рыбкай» айчыннага плавання. Некалі плыўчыха здымалася ў кліпе «Крамбамбулі». У дзяцінстве ў Герасімені быў любімы футбаліст Раберта Карлас. А нядаўна ён сам падарыў Сашы сваю майку і пачаў заўзець за плыўчыху.



### Не справілася з Серэнай

Віка Азаранка прыехала на Алімпіяду як першая ракетка свету і фаварытка. І ці не адзіная наша надзея на сапраўды заўважную светам перамогу. Але ў рэальнасці стрымаць амерыканку Серэну Уільямс было немагчыма. Настолькі магутна яна выглядала. Беларуска ўзяла ў яе тры геймы. А Маша Шарапава ў фінале — толькі адзін. Азаранка атрымала бронзу. Для першых Гульняў у адзіночным разрадзе вельмі нават добра.



### Спачатку займалася лёгкай атлетыкай

Медаль Марыны Шкерманковай з тых, якіх не чакалі. Але ад гэтага яны яшчэ больш прыемныя. Дарэчы, Марына падняла аднолькавую вагу з яшчэ адной беларускай Дзіянай Сазанавец. Але Шкерманкова менеі важыць, таму ёй і дасталася бронза. Марына — сціплая дзяўчына з Глыбокага. У цяжкую атлетыку трапіла з лёгкай. А бацькі дзяўчыны працуюць на малочна-кансервавым камбінаце.



### Прапаршчык з Камянца

Ірына Кулеша была вечна з «драўляным» медалём. На мінулай Алімпіядзе і двух чэмпіянатах свету яна заставалася чацвёртай. На гэты раз пашанцавала, што тры спробы «запарола» расіянка Яўсцюхіна. У Кулешы быў шанец зачапіцца за бронзу, бо іншая расіянка Забалотная і казашка Падабедава адарваліся. Кулеша нарадзілася ў Камянецкім раёне. Яе мама адна выгадавала пецярых дзяцей. Ірына працуе ў Спартыўным камітэце Міністэрства абароны ў званні прапаршчыка.

### Фотафакт

**Оскару Пісторыусу з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі ў 11 месяцаў адрэзалі ногі ніжэй калень, бо там не было касцей, але хлопчык усё адно хацеў стаць спартсменам. У школе ён актыўна займаўся рэгбі, бегам, барацьбой, ватэрполам. Оскар пераадолеў псіхалагічны бар’ер і нават пачаў выступаць за зборную. На гэтай Алімпіядзе Пісторыус заняў 23 месца ў бегу на 400 метраў.**



## Сцісла

### Карнееў: «Сказалі: давай, да свіданья»

Беларускі баксёр Сяргей Карнееў прайграў паўфінал суперніку з Азербайджана толькі па рашэнні арбітраў, бо лік быў роўным. Беларусы падалі скаргу, але выніку яна не дала. «Калі прыйшоў, нам сказалі: «Ты хто такі? Беларус? Тады давай, да свіданья», — напісаў Сяргей на сваёй старонцы «Укантакце». Азербайджан — адзін з самых шчодрых мецэнатаў у Міжнароднай федэрацыі бокса.

### У Ціхана і Ятчанкі забіраюць узнагароды Алімпіяды-2004

У крыві малатабойца Івана Ціхана і дыскаболкі Ірыны Ятчанкі знайшлі забароненыя прэпараты. Праўда, пробы былі ўзятыя яшчэ на афінскіх Гульнях. У Ятчанкі забяруць бронзу, а ў Ціхана — срэбра. Івану яшчэ не дазволілі выступіць на гэтай Алімпіядзе.

### Болт хоча ў «Манчэстэр Юнайтэд»

«Я быў бы самым хуткім гульцом у камандзе», — кажа алімпійскі чэмпіён у бегу на 100 метраў. «Людзі думаюць, што я жартую. Але калі сэр Алекс Фергюсан патэлефанаваў бы мне і сказаў: «Ок, давай паспрабуем, прыязджай і мы цябе прагледзім», я б проста не змог сказаць «не»!

### Фэлпс найвялікшы з вялікіх

На рахунку амерыканскага плыўца стала 19 узнагародаў. У яго актыве 15 залатых, 2 сярэбраныя і 2 бронзавыя медалі. Па агульнай колькасці алімпійскіх узнагародаў ён абышоў савецкую гімнастку Ларысу Латыніну (9-5-4).

### Бразільскі дзюдаіст зламаў медаль у душавой кабінцы

«Я заціснуў яго ў зубах, каб ён не выпацкаўся мылам», — сказаў Філіпе Кітадаі. Цікава, што ў душ бразілец узяў яго менавіта для таго, каб з ім нічога не здарылася.

**ЗП**

# Экс-гандляр збраяй выйшаў на волю

Невядома, колькі гадоў **Аляксандр Андрон** правёў за кратамі.

Пасля таго як у пачатку 2000-х дзяржава ўзялася за гандляроў збраяй, толькі адно прадпрыемства здолела працягнуць працу — «Белтэхэкспарт» Уладзіміра Пефціева. Хтосьці з уладальнікаў такога бізнэсу загадкава загінуў, кагосьці пасадзілі...

За краты на вялікі тэрмін адправілі і Аляксандра Андрона, які ўзначальваў «Белзнеш-прамсэрвіс». А нядаўна стала вядома, што былы бізнэсовец вызваліўся.

### Не дасядзеў…

Аляксандр Андрон з’яўляўся генеральным дырэктарам «Белзнешпрамсэрвіса» — прадпрыемства, якое прадавала зброю, займалася рамонтам і мадэрнізацыяй вайсковай тэхнікі. Яго затрымалі восенню 2003. Абвінавацілі ў атрыманні хабару; крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў асабліва буйных памерах; парушэнні таямніцы ліставання, тэлефонных перамоваў, тэлеграфных альбо іншых паведамленняў; падробцы і вырабе альбо збыце падробленых дакументаў, пячатак, бланкаў; незаконных дзеяннях у адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў; махлярстве, здзейсненым арганізаванай групай.

Суд скончыўся толькі ў маі 2005. Андрон атрымаў 10 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці і забаронай на пяць гадоў займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

За што ж арыштавалі багацея? У 2000—2003 гендырэктар «Белзнешпрамсэрвіса» з таварышам купіў установўчыя дакументы некалькіх замежных фірмаў і адкрыў рахункі ў латвійскіх банках. І з гэтымі фірмамі пачалі заключаць дамовы ад імя «Белзнешпрамсэрвіса». У выніку па дамовах паставак і працэнтах займаў Аляксандр Андрон з таварышам атрымаў каля 5 мільёнаў даляраў. І здзелкі гэтыя былі не зусім чыстыя, калі імі зацікавіліся праваахоўныя органы. Акрамя гэтага, гендырэктар са сваім падначаленым прысвоіў грошы прадпрыемства на камандзіроўкі — каля 7 тысяч даляраў. Апошняя сума выглядае смешнай у параўнанні з мільённым прыбыткам.

Асудзілі і падзельнікаў гендырэктара. Яго таварыш атрымаў 2 гады пазбаўлення свабоды, падначалены — 2,5 года «хіміі».

Таксама Андрона абвінавацілі ў тым, што ён вёў праслухоўку іранскіх бізнэсоўцаў, з якімі ў Беларусі праводзіліся перамовы. І той нібыта ў гэтай частцы віну прызнаў. У астатнім — адмаўляў.

Пасля шматмесячнага ліставання з Міністэрствам унутраных спраў удалося высветліць лёс экс-бізнэсоўцы. Рэдакцыя атрымала факс за подпісам першага намесніка начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Сяргея Працэнкі. У ім адзначана, што «ў цяперашні час Аляксандр Барысавіч Андрон ва ўстановах крымінальна-выканаўчай сістэмы не ўтрымліваецца». Першапачаткова ж яго вызваленне чакалася толькі ў 2013.

Зрэшты, хто можа паручыцца, што ён сядзеў. Былі адваротныя выпадкі Тамары Віннікавай, Галіны Жураўковай. Ці бліжэйшая па часе справа ўладальніка ГЦ «Ждановічы» Яўгена Шыгалава.



Пастаўкамі такіх Су-22 займалася кампанія Аляксандра Андрона.

**Андрон праслухоўваў іранскіх бізнэсоўцаў**

**«Белзнешпрамсэрвіс»**

дзяржаўнае экспартна-імпартнае прадпрыемства, якое прапаноўвае паслугі па распрацоўцы, вытворчасці, мадэрнізацыі, рамонту, рэалізацыі ўзбраення, вайсковай тэхнікі, ваенна-тэхнічнай маёмасці, іх камплектуючых, спецыяльнага тэхналагічнага абсталявання і матэрыялаў.



Такі дом пабудаваў экс-бізнэсовец у Вілейцы.

### Дзе шукаць Андрона?

Аляксандр Андрон — для інтэрнэту асоба загадкавая. Знайсці нейкія ўзгадкі пра яго — амаль немагчыма.

У Вілейцы, дзе да пераезду жыў, Андрон будаваў сабе дом. Чатырохпавярховы цагляны катэдж паўстаў у цэнтры горада. Побач знаходзілася амаль выключна аднапавярховая забудова. Таму палац гандляра зброяй вылучаўся на агульным фоне.

Да каго ні звяртаўся з вілейчукоў, ніхто не змог прыгадаць, ці паспеў засяліцца туды бізнэсовец. Нейкі час дом стаяў пустым, пакуль туды не перасялілі Вілейскі ваенкамат. Сёння, праўда, верхнія паверхі аддадзены пад жытло. Раптам вярнуўся былы гаспадар? Набіраем нумар (у некаторых тэлефонных базах па-ранейшаму ўладальнікам будынка з’яўляецца Андрон А.Б.). Але, як і чакалася, жаночы голас паведаміў, што гэта не яго кватэра. Пасля высветлілася, што гэта службовае жытло, у якім жыве сям’я міліцыянта.

У Мінску, праўда, некалькі кватэр зарэгістраваныя на цёзак па прозвішчу экс-бізнэсоўцы. Тэлефануем па кожным і запрашаем Аляксандра Барысавіча. На жаль, дзе на тэлефанаванне адказалі, жыхара з такім імем не аказалася.

**Сяргей Макарэвіч**

**Фотафакт**



**Дзень дэсантніка прайшоў у Мінску спакойна, паведамілі ў ГУУС Мінгарвыканкама. Хаця без невялікіх ранаў не абышлося.**

## У Мінску забілі крымінальнага аўтарытэта з Грузіі

Забіты — грузінскі экс-дэпутат **Бонда Шалікіяні**.

Ён быў адной з уплывовых асоб Грузіі перыяду да «рэвалюцыі ружаў». Разам з ім загінуў і мужчына, які яго суправаджаў.

Злачынства ў Мінску было ўчынена ноччу 7 жніўня. У двары жылога дома № 31 па вуліцы Кузьмы Чорнага прыблізна ў 1.10 у пацярпелага некалькі разоў выстралілі, у тым ліку ў галаву, — паведамляе БелаПАН.

Шалікіяні кантраляваў бізнэс нафтапрадуктаў і валодаў тэлекампаніяй «Кутаісі». Ён не раз абвінавачваўся рознымі палітычнымі сіламі, у тым ліку экс-губернатарам Імерэці, у сувязях з крымінальным светам.

Следства мяркуе, што ва ўчыненні забойства ўдзельнічалі некалькі чалавек. Адпрацоўваюцца ўсе магчымыя версіі злачынства. Адна з асноўных — заказное забойства, звязанае з крымінальнымі разборкамі.

Для расследавання акалічнасцяў забойства і высвятлення вінаватых створаная следчая група з дасведчаных следчых і крыміналістаў.

**ЛМ**

### Сцісла

#### Маці павесілася пасля таго, як даведалася, што патануў сын

Трагедыя здарылася ў Мінску 31 ліпеня. На апазнанне быў выкліканы бацька загінулага. Вярнуўшыся дадому каля 23.30, ён пабачыў сваю 63-гадовую жонку павешанай.

#### Жлобінскага тэрарыста пакуль не судзяць

Як паведамілі ў Жлобінскім раённым судзе, да іх матэрыялы справы пакуль не паступалі. У маі ў райцэнтры каля будынка міліцыі быў затрыманы чалавек. Па інфармацыі КДБ, на твары ў яго была маска з надпісам на арабскай мове, а пры сабе — ёмістасці з запальнай сумессю і выбуховай прыладай.

#### Мінчучку абрабавалі на турзлёце

Гэта здарылася паблізу мястэчка Ракаў (Валожынскі раён). У жанчыны скралі сумку-халадзільнік, два ноўтбукі, красоўкі, тры дыскі, заплечнік.

#### Зніклыя ў Гатаве блізнюкі знайшліся

Малых шукалі пад Мінскам амаль суткі. Яны патлумачылі, што хацелі павандраваць, але не рашыліся распавесці пра свае планы бацькам.

**ЛМ**

# У Мінску адшукалася невядомае выданне Скарыны

**Але беларускі мільянер не хоча прадаваць «Малую падарожную кніжыцу» дзяржаве.**

6 жніўня падчас прэзентацыі кнігі Уладзіміра Арлова і мастака Змітра Герасімовіча «Вялікае Княства Літоўскае» была агучаная кніжная сенсацыя. Яе аўтарам стаў Пятро Краўчанка, былы міністр замежных справаў, палітык і бібліяфіл. Ён звярнуўся да прысутных з заклікам пачаць збор сродкаў, каб вярнуць Беларусі каштоўны рарытэт — «Малую падарожную кніжыцу» Францішка Скарыны.

Першадрукар выдаў яе ў 1522. Гэта першая друкаваная кніга, што выйшла на тэрыторыі Вялікага Княства, у Віленскай друкарні Скарыны. «Кніжыца» прызначалася для вандроўнікаў і была чымсьці накшталт малітоўніка і календара, дапоўненага жыціпісамі святых, звесткамі з астраноміі. Скарына абраў для кніжкі зручны невялікі фармат і выдаваў часткамі: «Псалтыр», «Часасловец», «Саборнік» з «Пасхаліяй»... Мы ведаем, што гэта часткі адной «Кніжыцы», бо сам Скарына даў яе падрабязны змест у пасляслоўі. Усяго выйшла 21 частка.

На сённяшні дзень найпаўнейшы збор «Малой падарожнай кніжыцы» — 19 частак — мае Санкт-Пецярбургская бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына. Мінскі асобнік, сцвярджае Краўчанка, другі па паўнаце ў свеце: 18 частак (не хапае «Часаслоўца», «Шасцідзеўца» і «Канона пакаяльнага»). Нацыянальная бібліятэка Расіі мае ўсяго 10 частак «Кніжыцы».

Усяго такіх сшытых разам збораў-канвалютаў было вядома 22. Мінскі — 23-і па ліку. Краўчанка, які трымаў яго ў руках, запэўнівае, што кніга ў выдатным стане. Такі рарытэт можа каштаваць ад 300 да 500 тысяч даляраў.

«Асобнік быў выпадкова адшуканы гадоў дзесяць таму на кніжным развале ў Расіі, — кажа Краўчанка. — Я яшчэ пяць гадоў таму звязваў тагачасных гаспадароў з Мінкультам, у снежні 2008 прыязджаў уласнік, пакідаў ліст на імя міністра Мацвейчука з прапановай выкупіць кнігу Скарыны. Мінкульт гэта не зацікавіла». У лістападзе летась Краўчанка звярнуўся ўжо да міністра Латушкі. Ідэя набыць «Кніжыцу» міністра натхніла, пачаўся пошук сродкаў. Але аказалася, што кнігу ў расіянаў ужо выкупіў заможны беларус.

Новы ўласнік — загадкавая персона. Як кажа Краўчанка, гэта «адзін з нашых мільянераў, дарэчы, былы журналіст». Ён разумее, што мае справу з каштоўнасцю нацыянальнага маштабу. Спачатку меркаваў падараваць кнігу дзяржаве, пасля прапанаваў набыць. Маючы гэту інфармацыю, Пятро Краўчанка і агучыў заклік усенародна збіраць грошы на кнігу.

Аднак аказалася, што заклік неактуальны. «Адразу пасля выступу звязаліся пэўныя людзі і сказалі, што сродкі ўжо знойдзеныя. Аднак уласнік... перадумаў прадаваць кнігу! Бачыце — сітуацыя змяняецца кожную хвіліну», — кажа Краўчанка. Пакуль Мінкульт не ўгаворыць уласніка, застаецца грэць душу фотакопіямі: некалькі дзясяткаў адзнятых з мінскага збору старонак перададзена ў Нацыянальную бібліятэку.

**Сяргей Мікулевіч**

**Год вяртання знакавых кніг**

Некалькі месяцаў таму з ініцыятывы Музея гісторыі Магілёва быў выкуплены ў расійскага калекцыянера «Статут ВКЛ».

**Выданні Скарыны**

Усяго ў свеце іх налічваецца каля 400. Большасць — пражскага перыяду (1517–1519) — 234 асобнікі. Віленскія — больш рэдкія. Дагэтуль было вядома пра 154. Цяпер дадаліся яшчэ 18 кніжак мінскай «Падарожнай».

# Джэніфер Лопэс едзе ў Мінск

**Зорка з Нью-Ёрка спяе ў «Мінск-Арэне» 25 верасня.**

Джэніфер Лопэс уваходзіць у дзясятку самых багатых жанчынаў сусветнага шоу-бізнэсу. Акторская слава да яе прыйшла пасля выканання галоўнай ролі ў фільме «Селена». Джэніфер атрымала «Залаты Глобус» і мільён даляраў (хоць пасля яе, здаралася, прызнавалі і найгоршай акторкай года).

Як спявачка Лопэс запісала шэсць альбомаў, якія траплялі ў сусветныя чарты. А альбом рэміксаў J to tha L-O!: The Remixes — нават у Кнігу рэкордаў Гінэса па папулярнасці. Пяе яна і на роднай мове, па-іспанску (яе бацькі родам з Пуэрта-Рыка).

Сваю прыгажосць і талент Лопэс умее канвертаваць у цвёрдую валюту. Яна выпусціла лінію моднай вопраткі для маладых жанчын, парфуму Glow by J.Lo, што пабіла рэкорды продажаў, трымае кубінскі рэстаран у Каліфорніі. І не была б яна бізнэс-вумэн, каб не застрахавала сваю самую мяккую частку цела на 300 мільёнаў даляраў.

Яе тур Dance Again ахопіць усю Усходнюю Эўропу. Канцэртныя выступы Джэй Ло — вельмі яскравае відовішча.

Джэніфер вядомая і тым, што яе райдар (спіс патрабаванняў да арганізатараў канцэрта) — не для людзей са слабымі нервамі. Там і шэрая мэбля, і белыя архідэі, і ежа раз на дзве гадзіны...

«Нічога звышнатуральнага, з чым нельга было б справіцца, у райдары Лопэс няма», — кажа Максім Прыходскі з Аддзела дзяржаўных, спецыяльных і культурна-відовішчных мерапрыемстваў Палаца Рэспублікі.

Кошт квіткоў на мінскі канцэрт Джэй Ло — ад 400 000 да 1,5 мільёна рублёў.

**ЮУ**





# У «чорны спіс» за ролю генерала

**На «Беларусьфільме» не падпісалі кантракт з акцёрам Анатолем Катом.**

Анатоль Кот меўся здымацца ў серыяле «Беларусьфільма» «Сляды апосталаў». Акцёр паведаміў, што яму патэлефанавалі з кінастудыі і задалі адно пытанне: ці здымаўся ён раней у фільме «Жыве Беларусь!». Кот, у сваю чаргу, запытаўся, ці гэта праблема. Яму сказалі, што так — праблема, і сур'ёзная. Пры гэтым быў ужо складзены графік здымкаў серыяла з удзелам Ката, заставалася падпісаць дамову.

Фільм «Жыве Беларусь!» рабіўся цягам лістапада-снежня 2011 у Польшчы. Праз лёс маладога рок-музыкі, якога прызвалі ў войска, у ім паказаная сённяшняя Беларусь, у першую чаргу — палітычнае жыццё і ўціск незалежнай дзейнасці. Фільм зняты на аснове рэальных падзей і сабраў у сабе гісторыі і лёсы многіх людзей, якія праходзяць праз рэпрэсіі. У тым ліку — Франака Вячоркі, які быў адным са сцэнарыстаў. Галоўную ролю выканаў рэпмузыка Вінцэнт.

Анатоль Кот сыграў у кіно генерала беларускага войска. Апроч яго, у фільме здымаліся і іншыя прафесійныя акцёры. У прыватнасці, артысты Купалаўскага — Аляксандр Малчанаў і Раман Падаляка.

«У мяне ніякіх праблем не ўзнікала, прынамсі, пакуль што, — паведаміў «НН» Раман Падаляка. — Рэч у тым, што ў Анатоля Ката былі прызначаныя здымкі, а ў нас пакуль іх няма. Увогуле, глупства суцэльнае. «Жыве Беларусь!» — мастацкі фільм, а мы — акцёры, проста робім сваю працу. Хай гэта будзе на сумленні тых, хто прымае такія рашэнні».

Анатоль Кот лічыць, што «драннае не зачапіла б». Восенню чакаецца прэм'ера фільма ў інтэрнэце.

**Юрась Ускоў**

**In memoriam**

# Янка Саламевіч

31 ліпеня не стала літаратуразнаўца, фалькларыста, бібліёграфа, унікальнага даследчыка псеўданімаў Янкі Саламевіча. Яму было 74 гады.

«Псеўданімы — гэта маё жыццё», — казаў некалі Саламевіч у гутарцы з «НН». А падахвоціла да іх у пачатку 1960-х старая «Наша Ніва»: «Я знайшоў у адным з нумароў за 1915 год пад артыкулам пра народныя беларускія танцы подпіс «Я-р». У каго ні пытаўся, хто гэта, ніхто не ведае. Урэшце рассакрэціў крыптонім. Цяпер я ўжо ведаў, што гэта «Ясакар», псеўданім Змітрака Бядулі».

Пасля знаёмы даслаў яму з Украіны тамтэйшы слоўнік псеўданімаў, і даследчык загарэўся зрабіць падобны для беларусаў. Дваццаць гадоў ён збіраў матэрыялы. Расшыфраваў чатыры тысячы псеўданімаў і крыптонімаў. Калі «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптонімаў XVI—XX стст.» выйшаў, з кігарняў яго размялі за два тыдні.

Як найлепшага спецыяліста па псеўданімах Саламевіча пасля выхаду паэмы «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт» наведвала КДБ. Але рассакрэчваць псеўданім аўтара даследчык адмовіўся, спасылаўшыся на тое, што не мае яго згоды.

Да апошняга часу Саламевіч працягваў працу з псеўданімамі, у яго картатэцы было каля 20 тысяч расшыфраваных адзінак. Аднак у дзяржаўных выдавецтваў не знайшлося сродкаў на гэты ўнікальны слоўнік.

Пахавалі Янку Саламевіча на Калодзішчанскіх могілках пад Мінскам.

**СМ**



**Анонс**

# «Відзьма-нявідзьма» на «Белсаце»

Культавая праграма, якая паўплывала на фармаванне густаў не аднаго пакалення, перараджае на незалежны тэлеканал. Праграма паўстала ў 1992. Да 2002 г. выходзіла на БТ, затым да ліпеня 2011 — на СТБ. Потым са стваральнікамі без тлумачэння не працягнулі кантракт. На «Белсаце» «Відзьма-нявідзьма» пачне выходзіць з верасня штоаўторак.

# Музей Быкава. А ці трэба?

Піша **Андрэй Дынько.**

У газеце амерыканскіх беларусаў, якая так і называецца «Беларус», цікава чытаць апошнюю старонку, дзе друкуюцца падзякі за ахвяраванні. Беларусы-эмігранты перанялі гэтую вельмі еўрапейскую, якая стала вельмі амерыканскай, традыцыю прыватнага ахвяравання на прыватныя, а насамрэч — агульнаграмадскія справы. Бо грамадства складаецца з прыватных асобаў, і грамадскі інтарэс — гэта сума індывідуальных інтарэсаў.

Вось цяпер здарылася гэтая справа з музеем Быкава. Стала вядома, што «Лукашэнка даручыў» яго стварыць.

А даручыў таму, што сям'я Васіля Быкава — не ведаю, удава Ірына ці сыны — передала пад гэтую інстытуцыю дачу Быкавых у Ждановічах. Справа закрыта, музей будзе.

Сяргей Навумчык з радыё «Свабода» з ягонай палымянай любоўю да Беларусі выказаў страхі, што

## Найлепшая памяць пра Быкава — гэта «Дзеяслоў» ці «Малады Фронт» »

музей Быкава акажацца муляжным, як хата пісьменніка ў Бычках, што не будзе захаваны ані жорсткі побыт эпохі, ані праўда ідэй Быкава. Другія ўзрадаваліся самому факту «нармалізацыі» спадчыны Быкава, лукашэнкаўскаму блаславенню на яшчэ адной нацыянальнай ініцыятыве.

Мне хацелася б звярнуць увагу зусім на іншае. Спачатку — кароткі ўспамін. У 2001 давялося мне зайсці да тадышняга галоўнага рэдактара дзяржаўнага часопіса «Полымя» Сяргея Законнікава. Прыйшоў я ў якасці тады яшчэ рэдактара часопіса Arche з прапановай абмену анонсамі нумароў. «Нам гэта нецікава», — прадказальна адрэзаў мне Законнікаў, які меў уласны кабінет галоўнага рэдактара галоўнага літаратурнага часопіса краіны (мы, архэўцы, працавалі на ўласных кватэрах, і дагэтуль, ужо даўно без мяне, збольшага працуюць у сваіх хатах). Я без крыўды на мэтра-паэта тое расказваю — проста такое было ягонае разуменне іерархіі.

І чыё цяпер «Полымя» і чый Arche?

І якое, на выніку гэтых гадоў, значэнне «Полымя» і якое — Arche ў інтэлектуальным працэсе?

Музей будзе дзяржаўным з усімі наступствамі. Прыватны музей быў бы нічым не горшы, на маю думку. А нават меў бы лепшыя шанцы ў чымсьці. Але не гэта галоўнае. Мне важней сфармуляваць іншую думку.

Дачу передалі пад музей, бо лічаць такі спосаб ушанавання памяці пісьменніка найлепшым. Музей Коласа, музей Броўкі ёсць — і вялікі, Народны Быкаў мусіць стаяць упоравень.

Так, музей — важны інстытут, што дае ранг і канал камунікацыі з грамадствам.




Моладзь перад выбарамі патрабавала надаць адной з цэнтральных вуліц Мінска імя Васіля Быкава.

Не выключаю, што амерыканская сям'я дзейнічала б у такой сітуацыі іначай. У апошнюю чаргу яны б разглядалі варыянт перадачы гэтага будынка дзяржаве, і тым больш — такой несвабоднай, нестабільнай дзяржаве.

Можа, яны б гэтае памяшканне передалі ва ўласнасць часопісу «Дзеяслоў», дзе Быкава друкуюць, дзе ён рэальна жыве, дзе жыве рэальная, свабодная беларуская літаратура. Або нікому не передавалі б ва ўласнасць, а проста дазволілі распараджацца гэтым будынкам маладафронтаўцам, Насце Палажанцы ці праваабаронцам-вясноўцам, якія будуюць у Беларусі тое грамадства, якое і Быкаў, рызыкуючы сабой, будаваў. Бо найлепшая памяць пра інтэлектуала — гэта працяг традыцыі, якую і ён працягваў ці заклаў.

Хай сваякі Быкава не зразумеюць мяне няправільна. Я проста спрабую перадаць агульную ідэю на канкрэтным, зразумелым прыкладзе: не дзяржава, а грамадзянская супольнасць, незалежная культура сёння прыярытэт.

Найлепшая памяць пра Быкава — гэта той самы «Дзеяслоў», той самы «Малады Фронт», тая самая «Вясна». Сапраўдная памяць — у ідэях, а не ў музеях.

У гэтых ідэях толькі Быкаў сёння жыве, а не ў стэндах і мармуровых шыльдах. І будзе жыць — калі носьбіты гэтых ідэй не растрацяцца на другаснае.

# Беларуская глыбіня. **Сеціва**

Піша **Павел Севярынец.**

*...І кажа ім: ідзіце за Мною!
Зраблю вас лаўцамі
людзей.
Евангелле
паводле Матвея 4:19*

Беларусь паволі сплывае ў сеціва.

Людское сумоўе, навіны, кнігі, газеты, надвор'е, карысныя парады і разумныя думкі, цікавасці і цікавосткі, ды і сам час беларуса ўсё больш і больш заблытваецца ў неабдымнай, шматмоўнай, поўнай выбраных знакаў, улюбёных мелодый, знаёмых і новых абліччаў, падуладнай аднаму толькі дотыку пальцаў прасторы. А яна, гэтая прастора, штодня выкалыхвае з донная каламуццю, падхопліваe ды выцягвае на паверхню яшчэ не вядомыя чалавецтву бліскучыя цуды і страхалюдствы самай глыбокай у свеце беларускай глыбіні.

Менавіта ў сеціве наўпаўней усплываюць беларуская засярожанасць і хітрамудрасць, зайздрасць і пакрыўджанасць, прыгажосць і летуценнасць, агульная млявасць і абыякавасць да

## Дзе яны, нашы Навальныя? »



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

жыцця. Бясконцыя водарасці вылоўяў ды выяваў у сябroўскіх стужках, гронкі безыменнага і беспрадметнага гневу ў каментарах, кілатоны тутэйшай балотнай твані — і ніколі не бачаныя на нашай прэснаводнай сушы (не блытаць з *сушы*) глыбакадумныя салёнасці... Старадаўнія сядзібы Берасцейшчыны (са здымкамі), пружанскія плёткі (з падрабязнасцямі), тутэйшыя кошты (дзе пасля кожнае лічбы — ооо! — крыкі нулёў)... І калі ў навакольных калгасах усё яшчэ вырашаюць аб'ява ў раёнцы, хатняя тэлефонія ды радыё АБС, дык у пераважна маладзёвай камендзе большасць або «Укантакце», або на інтэрнэт-гульнях, або на сайтах сумнеўнага зместу.

Сеціва імгненна, чуйнымі позвамі, адгукаецца на тое, што сапраўды хвалюе беларускі народ, хваля нарастае, ператвараецца ў вал — і людское мора раптам ускіпае вакол выпадковага відэа ці гукy, якія трапляюць сённяшняй Беларусі ў сэрца.

Улёткі і налепкі — ужо толькі дапаможныя сігналы. Беларускія маўклівыя акцыі давялі магутнасць плыняў, народжаных у сацыяльных сетках; дык гэта летась, а з той пары Байнэт яўна пашырыўся. Еўрапейскія акцыі і арабскія вёсны мільёнамі клікаў за лічаныя дні мяняюць улады і лады жыцця. Нават Расія, да якой увогуле ўсё тугавата даходзіць, народ якой вечна *безмолвствует* — нарэшце закіпела праз сеціва пасля ўсё той жа сфальшаванай «парламенцкай кампаніі».

Адказ на бяссілаць «старой апазіцыі» — тры-дабл-вэ. Гаварашчая галава «кандыдата ў дэпутаты», каторы выступае па абласной тэлевізіі за ўсё добрае і супраць усяго кепскага, нікому не цікавая. А вось відэа, колькі людзей насамрэч нагамі зайшло да «выбарчых урнаў» 23 верасня ў параўнанні з афіцыйнымі дадзенымі «камісіяў», сеціва парве.

Падчас нешматлікіх масавых акцыяў беларусы павальна, поседам сядзяць у нэце. Самы паспяховы палітычны лідар апошняй кампаніі, Саннікаў — кандыдат у прэзідэнты ад інтэрнэт-сайта. Найбольш розгласныя беларускія праекты апошніх часоў разгортваюцца праз «кантакт», «ю-цюб», мульцікі ды фільмы, скачаныя на асабістыя камп'ютар. З дэмаграфічным змяншэннем колькасці моладзі, з закручваннем гаек і ад'ездам вялікай колькасці працаздольных за мяжу ў беларуса руху, па вялікім рахунку, застаўся адзіны рэсурс для пашырэння — кліпы, суполкі ды акцыі, накіраваныя на збіранне ды вывад актыўных анлайнераў у жыццё.

Адзіны прарыў, магчымы зараз у парламенцкай кампаніі 2012, — гэта калі мільёны беларусаў даведаюцца праўду пра факты фальсіфікацыі, выкладзеныя тысячамі відавочцаў байкоту ў нэт. У Беларусі, дзе пяць мільёнаў карыстальнікаў і сто тысячаў блогераў, толькі праз сеціва можна паразіць зло ў такіх маштабах: тут уваход не толькі дахаты, з дрыжачым ад фальшу голасам: «Выбары!..» — але і ў асабісты пакой да кожнага другога беларуса.

І беларускасць, і свабода, выцесненыя з рэальнасці, засяляюць сеціва. І ў Беларусі, і ў волі зараз нашмат больш агульнага з нябачнасцю, умоўнасцю, паветранасцю нэту, чым сённяшняй рэчаіснасцю. Гэта — патэнцыял. Магчымасці весці і евангелізацыю, і беларусізацыю, і грамадзянскую адукацыю, і палітычную агітацыю — бяспрыкладныя. Наведвальнасць незалежных навінавых сайтаў сувымерная з абсягамі афіцыйных СМІ — прычым як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях. І магчымасць даць беларусу ачомацца, усвядоміць сябе тым, кім ён ёсць, як ні парадаксальна — найбольшыя цяпер менавіта тут.

Няўлоўнае электрамагнітнае поле інтэрнэту — аснова альтэрнатывы прымусова падпісаным газетам, чорным бэтэшным ды расейскім тэлескрыням, вечна цёплым ад сядзення начальніцкіх задоў крэслам на райвыканкамаўскіх нарадах, іерархіям органаў і кантролю, працоўным кантрактам і нясплачаным крэдытам, колькіслойным кратам страху — усёй грувасткай і ржавай шматпавярховай сістэме клетак рэжыму.

Дзе яны, нашы Пятры і Андрэі, лаўцы чалавекаў?..

Дзе яны, нашы Навальныя?

Знайсці і славіць беларуса, найвялікшага адмыслоўца ў майстэрстве хавацца ў бульбу!...

Галоўнае — не заблытацца ў сеціве самім.

Бо наша мэта — не «раскруціць» сябе, не распаліць яшчэ большую нянавісць да Лукашэнкі, а выцягнуць з мора страху, падману і ўсеагульнай хлусні як мага больш яшчэ жывых людзей, якія ўрэшце зменяць волій і верай аблічча гэтай зямлі...

Так, як было паўсюль — з лёгкім, любоўным подыхам нябачнага і няўлоўнага Святога Духа.

*Куплін*

# Беларускі Валенберг з-пад Навагрудка

**За тры гады вайны самагоншчык Косцік Казлоўскі выратаваў ад смерці больш за 500 габрэяў.**
Піша **Дзмітрый Гурневіч**.

Адразу пасля захопу немцамі Заходняй Беларусі ў 1941 пачалося паляванне на беларускіх габрэяў. Нямногім удалося ўцячы. Немцы пачалі ствараць гета і праводзіць масавыя экзекуцыі. Габрэі маглі спадзявацца толькі на дапамогу мясцовага насельніцтва. Тысячы беларусаў, рызыкуючы жыццём, ратавалі суседзяў.

Унікальнай была гісторыя беларускага селяніна з-пад Навагрудка Косціка Казлоўскага. Ён дапамагаў габрэям усю вайну і выратаваў ад Халакосту больш за 500 чалавек.

За сталом пры гарэлцы сядзяць двое мужчын. Побач незадаволена завіхаецца жанчына. Гаспадар дае госцю пісталет і чатыры патроны. Мужчыны выпіваюць па чарцы за нябожчыкаў. Раптам з-за акна ў хату залятаюць промні святла, чуваць гук машыны. Да гаспадара ў пошуках габрэяў прыязджаюць паліцаі. «Марш у хлеў», — загадвае ён госцю. Той бяжыць да прыбудоў і залазіць па драбіне на вышкі. Там ужо хаваюцца каля дзясятка чалавек. Гэта ўцекачы з Навагрудскага гета. Пакуль гаспадар гамоніць з паліцаямі, яны, стаіўшы дыханне, чакаюць. Калі паліцыя ад'язджае, мужчына з групай габрэяў сыходзіць у лес. Праз пару дзён гаспадара вешаюць немцы і прымацоўваюць да цела шыльду: «Аматар жыдоў». Гэта сцэны з нашумелага галівудскага фільма «Выклік» з Даніэлам Крэйгам у галоўнай ролі.

Гаспадар — беларускі селянін Косцік Казлоўскі, які жыве на хутары ля вёскі Макрэц пад Навагрудкам. Яго госць — Тувія Бельскі, кіраўнік габрэйскага партызанскага атрада, заснавальнік лясного лагера «Ерусалім» у Налібоцкай пушчы.

**Тувія Бельскі**

нарадзіўся ў 1906 у Станкевічах на Навагрудчыне. У маі-чэрвені 1942 з братамі Зусем і Асоэлам уцёк з гета і стварыў сямейную групу ў Бочкавіцкім лесе паблізу Станкевічаў. Да канца жніўня 1942 група вырасла да 80 чалавек. Усталяваў кантакт з савецкім партызанскім атрадам В. Панчанкава. Атрад Бельскага не ўпісваўся ў структуру партызанскага руху, у ім было шмат жанчын і дзяцей. Па рашэнні камандавання сямейная група перамясцілася ў Налібоцкую пушчу для стварэння базы, баявая — у колькасці каля 100 чалавек — засталася ў раёне Наваградка і Ліды і прымала ўдзел у баявых аперацыях.

Тувія камандаваў сямейнай групай. Падчас карнай аперацыі «Герман» у ліпені-жніўні 1943 Тувія захаваў атрад у поўным складзе. На момант вызвалення ў атрадзе знаходзілася 1018 чалавек. Пасля вайны эміграваў у ЗША.

Смерць Казлоўскага — мастацкая фікцыя. Насамрэч ён пражыў амаль 100 гадоў.

Аднак яшчэ большай рэжысёрскай выдумкай з'яўляецца прадстаўленне яго героем другога плана.

### Вучань шаўца

Рэальны Косцік Казлоўскі ратаваў габрэяў тры гады — ад прыходу нацыстаў і ажно да іх уцёкаў з Беларусі.

Нарадзіўся Казлоўскі ў 1886 на тым самым хутары Макрэц. Бацька Рыгор працаваў на млыне ў пана Мэрца. Сям'я Казлоўскіх была небагатая, мела ўсяго 1,5 гектара зямлі. З братамі Бельскімі малы Кастусь сябраваў з дзяцінства. Яны былі суседзямі. Родная вёска Бельскіх, Станкевічы, знаходзілася ўсяго за кіламетр ад хаты Казлоўскіх. Ад малога Косцік умеў размаўляць на ідыш. Яшчэ дзіцем бацькі аддалі яго на навуку да мясцовага габрэя-шаўца. Ад яго Косцік і навучыўся свабодна размаўляць на мове суседзяў-габрэяў.

На жыццё Казлоўскія зараблялі дробным гандлем. Косцік ездзіў на кані па навакольных вёсках, прадаваў і скупляў тавар. Быў вядомым у наваколлі самагоншчыкам. Смак яго «сівухі» ведалі і савецкія партызаны, і габрэі з атрада Бельскага, і мясцовыя паліцаі. Косціка ведалі ўсе, а ён, дзякуючы гэтаму, ведаў пра ўсё, што адбывалася навокал.

Першая жонка Косціка памерла падчас родаў у 1938. Ён сам гадаваў пецярых дзяцей.

Суседзі яго амаль не заўважалі. Казлоўскі займаўся сваёй справай, жыў наводшыбе, непадалёк ад шашы Навагрудак — Ліда. З дарогі яго хутар быў не бачны, вяскоўцы не ведалі, чым займаецца сусед. Дый не любіў ён быць у цэнтры ўвагі, быў негаваркі і сціплы.

### Схованка ў бульбяной яме

Увосень 1941, калі немцы стварылі ў Навагрудку гета, нямногім удалося збегчы. Сярод шчасліўцаў быў Тувія Бельскі з жонкай і братамі. Жонка Бельскага, дарэчы, стала першай, каго Казлоўскі хаваў на сваім хутары.

Улетку нацысты праводзяць другую буйнамаштабную акцыю па ліквідацыі габрэяў у Навагрудку. Гіне каля 5 тысяч чалавек.

Тувія просіць Косціка пайсці ў гета і перадаць яго стрыечнаму брату Ягуду ліст. У ім Тувія просіць далучацца да габрэйскага партызанскага атрада ў пушчы. Ягуда збіраўся ўцякаць і раней, але яго напалохалі чуткі, што савецкія партызаны забілі некалькі ўцекачоў з гета, прыняўшы іх за нямецкіх шпіёнаў. Атрымаўшы ліст ад брата, Ягуда доўга не думае. Разам з ім уцякае 7 чалавек.

Яны не адразу знаходзяць хутар Казлоўскага, блукаюць па лесе. 11-кіламетровы шлях ад Навагрудка заняў усю ноч. Першым у хату ідзе Ягуда. Прывітаўшы стомленага прышэльца, Косцік кажа хлопцу, што той толькі што размінуўся з Тувіям. «Але на хвалюйся, — кажа Косцік, — яны часта прыходзяць». У лесе хаваецца рэшта групы.




Такім Казлоўскага паказалі ў галівудскім фільме «Выклік».



Косцік Казлоўскі ў рэальнасці.

Косцік перадае ім малако і хлеб, рыхтуе начлег: яму з-пад картоплі пры самым лесе. Прыкрыўшы яму дошкамі, Косцік засыпае яе зверху саломай і смеццем.

Гэтая бульбяная яма выратуе не адно жыццё.

Ранкам Косцік корміць уцекачоў сняданкам: хлебам, кілбасой, налівае па чарцы самагонкі. Пасля з'яўляецца Тувія і забірае шчасліўцаў у пушчу.

Сярод вязняў навагрудскага гета ўжо ходзяць чуткі пра лясны атрад Бельскіх. Са жніўня да верасня з гета ўцякае ўсё больш людзей. Ладная частка іх спыняецца ў Казлоўскага. Айк Бернштэйн з двума сябрамі трапляе на хутар выпадкова. Блукаўшы па лесе ўсю ноч, яны выходзяць у Макрэц. Косцік слухае іх гісторыю і з усмешкай кажа: «Ну вы, хлопцы, і шчаслівыя. Будзеце жыць». Праз чатыры дні партызаны Бельскага забіраюць небарак у лес.

### Звёў Бельскага з Панчанкавым

Калі ў «Ерусаліме» трэ былі лекі, Казлоўскі ішоў у Навагрудак і здабываў іх. Па дарозе ён заходзіў у гета і перадаваў вязням лісты ад Тувії.

Два сховішчы Косцік падрыхтаваў і ў хаце — гэта паддашша і яма пад падлогай у кухні. На гарышчы змяшчалася 8 чалавек. У яме пад кухняй — трое. Сховішчы выкарыстоўваліся ў выключных выпадках — калі на двары знянацку з'яўляліся паліцаі.

Тым часам мясцовае насельніцтва пачынае скардзіцца партызанам, што габрэі забіраюць у іх апошнія прадукты. Адзін з партызанскіх камандзіраў Віктар Панчанкаў прымае рашэнне знішчыць лагер Бельскіх і пакараць смерцю ўсіх без выключэння габрэйскіх партызанаў. Пра гэта дазнаецца Косцік і арганізуе сустрэчу паміж Панчанкавым і Бельскім. Яны дамаўляюцца не пераступаць адзін аднаму дарогу.

### Паліцэйская расправа

Узімку 1942 ваколіца замірае ў жаху. Немцы забіваюць сям'ю Баброўскіх. Яны, як і Косцік, хавалі ў сябе ўцекачоў з гета. Жонку з мужам расстралялі, хату спалілі, а шасцярых дзяцей адправілі ў канцлагер у Нямеччыну.

Падобны лёс чакае і брата Косціка.

Іван Казлоўскі працаваў паліцаем у Навагрудку. Але сваю пасаду ён выкарыстоўваў, каб дапамагаць габрэям уцякаць, здабываць для Бельскіх зброю і збіраць інфармацыю. Івана застрэлілі і спалілі ў адрыне ля лідскай шашы.

Ані забойствы Баброўскіх, ані трагедыя з братам не спыняюць Косціка. Ён нават робіцца яшчэ больш адважным. Калі Тувія некалькі дзён не прыходзіць за новымі ўцекачамі, Косцік заводзіць іх у пушчу сам.

7 жніўня 1942 у Літоўцы пад Навагрудкам немцы расстрэльваюць больш за 4 тысячы габрэяў.

Даходзяць да немцаў і звесткі пра дзейнасць Косціка. Веснавым ранкам на хутары з'яўляюцца паліцаі.

Самога 57-гадовага гаспадара няма. Затое ёсць яго дзеці. Паліцаі забягаюць у хату і пачынаюць страляць без разбору. Залазяць на паддашша і пачынаюць каламі шукаць у сене жывое. Толькі цудам яны абмінаюць трох габрэйскіх дзяцей, якія там хаваліся. Дачка Косціка Таіса паспявае ўцячы да дзядзькі, што жыве побач. Паліцаі ж пачынаюць допыт малодшага сына. Яго кладуць на лаўку і лупцуюць шомпаламі. Сын, так і не раскрыўшы, дзе бацька, губляе прытомнасць. Паліцаі ідуць у хату брата, выцягваюць з-пад ложка Таісу. «Дык вось дзе ты, жы-дзянё», — крычыць паліцай. Гаспадары бажацца, што малая іхняя, Казлоўская. Адзін паліцай супакойвае другога: «Гэта ж дзіця! Што, у цябе сваіх няма? Не чапай яе...»

Пасля гэтага выпадку Казлоўскія перабіраюцца ў лес і жывуць разам з тымі, каго яшчэ нядаўна самі ратавалі ад смерці.

### Пражыў 95 гадоў

З лесу Казлоўскія выходзяць пасля ўцёкаў немцаў, у 1944-м. Але на хутар яны ўжо не вяртаюцца. Косцік з сынамі будуе новы дом у вёсцы Лаўцы, дзе да пенсіі працуе нарыхтоўшчыкам. Большасць тых, хто выжыў, дзякуючы яму, выязджае праз Польшчу ў Ізраіль і ЗША. Некаторыя час ад часу пішуць Косціку лісты, высылаюць пасылкі. 12 ліпеня 1981, ва ўзросце 95 год, Косцік памірае. Яго хаваюць на мясцовых могілках.

22 снежня 1993 Канстанцін Казлоўскі (пасмяротна) і яго старэйшыя сыны Генадзь і Уладзімір атрымалі званне «Праведнікаў народаў свету».

Паводле камісіі Яд Вашэм, цягам трох гадоў вайны Казлоўскія ўратавалі не менш за 500 габрэяў.

У часы, калі адвага і спагада былі ў дэфіцыце, калі кожны справядліва клапаціўся пра сябе і сваю сям'ю, Казлоўскі паказаў прыклад незвычайнай людскасці. У яго не было сувязяў і грошай Оскара Шындлера, каб «адкупіць» габрэяў. Ён не мог разлічваць на дапамогу 350 супрацоўнікаў і дыпламатычны імунітэт, як славуты Рауль Валенберг. Косціку дапамагалі дзеці і грошы, выручаныя за продаж самагонкі.

Пасля вайны пра яго не пісалі кніг і не здымалі фільмаў. Гісторыя Косціка Казлоўскага стала вядомай толькі пасля ягонай смерці.

# «Воплі Відаплясава» ў Мінску



**17 жніўня Robinson Club** прадстаўляе канцэрт гурта «Воплі Відаплясава» на беразе Мінскага мора. Пачатак а 21-й. Замова квіткоў: (044) 502-11-11.

## ІМПРЭЗЫ

### Зорка караоке

**У клубе «Багема» (пр.Машэрава, 17-1) ад 10 да 26 жніўня** штодзень будзе адбывацца конкурс «Зорка караоке».

## КАНЦЭРТЫ

### Blues

**11 жніўня ў «Графіці»** — канцэрт гурта Long Way.

### Акустычны вечар

**12 жніўня ў клубе Cuba Libre (Крапоткіна, 93а)** — акустычны вечар, жывая музыка.

### Канцэрт гурта Chiefs Band

**15 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Jazz-Funk: гурт Chiefs Band.

### Вера Брэжнева

**Канцэрт адбудзецца на беразе Мінскага мора ў Robinson Club.** Пачатак а 21-й. Замова квіткоў (044) 502-11-11.

## ФУТБОЛ

### 20-ы тур

**11—12 жніўня** пройдуць матчы наступнага тура Чэмпіянату Беларусі па футболе. Сустракаюцца:
«Славія» (Мазыр) — «Белшына» (Бабруйск);
«Гомель» — «Брэст»;
«Нафтан» (Наваполацк) — БАТЭ (Барысаў);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Нёман» (Гродна);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама» (Мінск).

## ВЫСТАВЫ

### Гарадскі пейзаж

**7—18 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Гарадскі пейзаж. Жывапіс з калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва». Гарадскі пейзаж (архітэктурны, індустрыяльны) — гэта жанр выяўленчага мастацтва, у якім асноўным прадметам малюнка з'яўляецца натуральная або пераствораная чалавекам прырода. У цэнтры філасофіі гарадскога пейзажу — стаўленне чалавека да навакольнай прасторы.



### «Давай дапаможам»

**11 жніўня ў Мінску** пройдзе дабрачынная акцыя «Давай дапаможам!». У гэты дзень у парк імя Горкага прыедуць 100 былых бяздомных катоў і сабак, якімі цяпер апякуецца грамадскае аб'яднанне «Эгіда» і валанцёры. Усе жывёлы прышчэпленыя, многія — стэрылізаваныя, з ветэрынарнымі пашпартамі і даведкамі аб стане здароўя. Таксама на акцыі будзе працаваць «Палатка дапамогі», куды кожны жадаючы зможа прынесці корм (сухі і кансервы), напаўняльнікі для кацiных прыбіральняў, амуніцыю, ляжанкі для катоў і сабак альбо аказаць фінансавую дапамогу, апусціўшы грошы ў спецыяльны скрыню. Мерапрыемства пройдзе ад 13 да 18 гадзіны.



### Кубак Fancy

**11 жніўня ў вёсцы Алешнікі (Лагойскі раён)** пройдзе турнір па велаарыентаванню Кубак Fancy. Стартавы ўнёсак — 40 тысяч. Пачатак а 12-й.

### Zabor

**Ад 24 ліпеня ў парку Чалюскінцаў** працуе выстава рэпрадукцый пад адкрытым небам Zabor. На агароджы, што па правы бок ад цэнтральнага ўваходу ў парк, экспануецца некалькі дзясяткаў прац чатырох беларускіх мастакоў: Руслана Вашкевіча, Сяргея Каваля, Уладзіслава Стальмахова і Віктара Альшэўскага.



### Страчаны рай

**7—18 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе персанальная выстава народнага майстра Рэспублікі Беларусь Мікалая Тарасюка «Страчаны рай», прысвечаная 80-гадоваму юбілею аўтара.

### Жывыя матылькі

**Да 31 жніўня ў Мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра мастацкай творчасці (Гікалы, 4)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Наведнікі выставы могуць назіраць свабодны палёт матылькоў, іх узаемаадносіны, а таксама ўсе метамарфозы іх развіцця.

### Сад камянёў

**Да 26 жніўня ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей I з'езда РСДРП»** працуе выстава мінералаў «Сад камянёў». На выставе прадстаўлены ўзоры мінералаў (групы кварца, рудныя, самародныя элементы, карбанаты), горныя пароды, каменныя вырабы, выкапнёвыя арганізмы, высакародныя камяні для апрацоўкі і вырабаў, археалагічныя знаходкі.

### «Гараджанкі»

**Да 15 жніўня ў бібліятэцы імя Цёткі (Талбухіна, 14)** працуе выстава «Гараджанкі: вобразы мілыя роднага краю», прымеркаваная да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. На выставе прадстаўлены работы ў тэхніцы ручной вышыўкі.

### Партатыўныя лялечныя тэатры

**З 13 ліпеня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры** працуе выстава партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

## ТЭАТРЫ

### 9 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Кастынг»

### 15 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Кастынг»

### 19 жніўня

**Беларускай драматургіі** — Sypemeda

## КІНО

### Плюшавы хуліган

**Трэці лішні** (Ted)
ЗША, 2012, каляровы, 106 хв.
**Рэжысёр:** Сэт Макфарлэйн
**Ролі выконваюць:** Марк Уолберг, Міла Куніс, Сэт Макфарлэйн, Джоэль Макгейл, Джавані Рыбізі
**Жанр:** Камедыя
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

На Каляды самотны хлопчык загадаў, каб ягонае плюшавае медзведзяня ажыло. І гэта здарылася. Калі хлопец пасталеў, то заказаўся ў прыгажуню. Але плюшавы сябар Тэд гарэзіць да сюль. Дзяўчына ставіць пытанне рубам: альбо яна, альбо мядзведзь.

Хуліганская кінакамедыя Сэта Макфарлэйна расказвае пра плюшавае медзведзяня, якое курыць траўку, нюхае какаін, напіваецца і адцягваецца з прастытуткамі. І ў гэтым атракцыёне, калі мяккая цацачная істота паводзіцца амаль нецэнзурна, — галоўная фішка стужкі.

Марк Уолберг грае інфантыльнага дзецюка, які ў 35 гадоў баіцца грымотаў і не хоча браць на сябе адказнасць. Любоўная гісторыя разгортваецца з неабходнымі, але неарыгінальнымі скандаламі і прыгодамі. Мядзведзяня паддае жару.

Але гэта не першы плюшавы мядзведзік, які наскандаліў у «моцнай і квітнеючай» краіне. Шведскія медзведзікі былі цікавейшыя.

**Андрэй Расінскі**



# Паркоўка новага пакалення

**Не заплаціў — не выедзеш са стаянкі.**

У Мінску пачалася другая спроба ўкаранення аплаты за стаянку аўтамабіля ў цэнтры горада — нормы, якая прымяняецца ў большасці гарадоў Еўропы.

Так званыя паркаматы — аўтаматы для аплаты стаянкі — упершыню з'явіліся на вуліцах беларускай сталіцы з дзясятак гадоў таму, аднак шырока прымяняцца не сталі. Зімой акумулятара паркамата хапала літаральна на дзень-два, пасля чаго яго трэба было зараджаць. У выніку апарат то працаваў, то не працаваў. Апроч таго, разлічыцца ў іх можна было толькі з дапамогай спецыяльнай карткі. Замест таго каб пашукаць кіёск і купіць яе, кіроўцы проста з'язджалі, не заплаціўшы.

**Кошт гадзіны паркоўкі ў самым цэнтры горада***

Мінск — 2000 рублёў

Варшава — 8 700 рублёў

Вільня — 8 900 рублёў

Масква — 12 800 рублёў (з 2013 года)

Нью-Ёрк — 20 800

Парыж — 30 600

*у пераліку на беларускія рублі

На змену адключаным паркаматам прыйшлі бясправўныя людзі ў аранжавых камізэльках, якія збіралі наяўныя грошы ў аўтамабілістаў. Магчымасці затрымаць кіроўцу, які адмаўляўся плаціць, у іх усё адно не было. З 1 жніўня паркоўшчыкі зноў саступаюць сваё месца тэхніцы. Пакуль што, праўда, толькі на адной стаянцы Мінска, за ЦУМам.

Паркоўка новага пакалення працуе па наступнай схеме. На заездзе на стаянку знаходзіцца слупок-аўтамат выдачы картак. Адзначым, што ён стаіць не на самым краі дарогі, таму не заўсёды ўдаецца дацягнуцца з крэсла кіроўцы да патрэбнай кнопкі. Камера ідэнтыфікуе нумар машыны, і паркамат выдае аднаразовую папяровую картку з магнітнай стужкай. На ім надрукаваны час заезду. Цяпер можна шукаць вольнае месца і ісці па сваіх справах.

Аплата адбываецца пры выездзе. Атрыманую картку трэба ўставіць у асноўны паркамат, які пакажа, якую суму патрэбна заплаціць. Можна ўстаўляць у апарат банкноты (ад 1000 рублёў), а пасля пры патрэбе атрымаць рэшту. Можна заплаціць і парковачнай карткай. Яны бываюць трох наміналаў — на 300, 600 і 1200 хвілін. Кошт складае 9 000, 18 000 і 36 000 рублёў адпаведна.



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

**З новым апаратам не ўсім удаецца зладзіць з першага разу.**

Разлічыўшыся, кіроўца зноў атрымлівае картку і чэк. Ад часу аплаты да часу выезду можа прайсці не больш за 15 хвілінаў. Картку давядзецца «скарміць» слупку на выездзе са стаянкі, тады адкрыецца шлагбаум.

Пры гэтым літаральна праз метр-два ад строгай платнай стаянкі можна пакінуць аўтамабіль уздоўж дарогі абсалютна бясплатна. Таму без паўсюднага ўкаранення новай сістэмы кіроўцы не будуць успрымаць яе ўсур'ёз. Апроч таго, усмешку выклікае і кошт стаянкі. Да 20 хвілін яна па-ранейшаму каштуе ўсяго 1000 рублёў, да гадзіны — 2000 рублёў, кожную наступную гадзіну — яшчэ 2 000.

А вось паркоўка ўвечары і ўначы, згодна з правіламі, зусім бясплатная.

Мяркуецца, што другой аўтаматызаванай стаянкай стане тая, што знаходзіцца ў Верхнім горадзе каля плошчы Свабоды. Трэцяя — на дыспетчарскай станцыі «Дружная».

**Ягор Марціновіч**

## Чаму замалявалі назву кавярні «Лондан» у цэнтры Мінска?

**Уласнікі называюць гаспадарчыя прычыны.**

Уласнік мінскай кавярні «Лондан» зафарбавалі назву ўстановы на агароджы летняга павільёна. Гэта спраўкавала хвалю чутак. Некалькі інтэрнэт-рэсурсаў расцанілі гэта як наступствы неакрэдытацыі Лукашэнкі на Алімпіяду.

Арт-дырэктар установы Юрый Вінаградаў расказаў, што ўсё не так. Паводле пастановы Мінгарвыканкама назвы рэстаранаў і кафэ на фасадах трэба рэгістраваць, гэта платная працэдура. Зафарбаваныя надпісы не былі зарэгістраваныя, а ў наступным годзе кавярня, мяўляў, плануе змяніць афармленне.

Што магло справакаваць ажыятаж вакол «Лондана»? Магчыма, жарт у сацыяльных сетках. У Фэйсбуку пажартавалі, што, раз на Алімпіяду не пусцілі Лукашэнку, у адказ на гэта кавярню «Лондан» зачыняць. Многія ў тую «качку» верацьдагэтуль. А тут яшчэ і шыльду зафарбавалі.

**Сямён Печанко**



**Што ў імені табе маім?**

## Славенская дзюдаістка Раша Срака стала ўлюбёнкай інтэрнаўтаў

Яна выступала на Алімпіядзе ў катэгорыі да 70 кг і спынілася на чвэцьфінале. Прычыны народнай любові застаюцца загадкай.

Па-славенску, як і па-чэшску або старaславянску, «срака» азначае «сарока».

**Рэкамендуем**

## Нямецкі журналіст ажаніўся па-беларуску

Незвычайнае вяселле адбылося ў Мікалаеўшчыне, на радзіме Якуба Коласа. Нямецкі журналіст Інго Пэтц пабраўся шлюбам з беларускай перакладчыцай Алесяй Белановіч Шлюб прайшоў цалкам у беларускай нацыянальнай традыцыі. Пэтц адзін з рухавікоў Нямецка-беларускага таварыства, шмат піша пра Беларусь.



**Рэпартаж з вяселля можна прачытаць на nn.by**

**Прызнаўся**

## Майкл Фэлпс сікаў у басейн



У Лондане на Алімпіядзе славуты плывец абвесціў, што спыняе выступы. І дазволіў сабе расслабіцца. У інтэрв'ю газеце Wall Street Journal ён прызнаўся, што часта спраўляў малую патрэбу, не выходзячы з басейна.

«Калі табе дзве гадзіны трэба адтрэніравацца, то не будзеш жа выходзіць з басейна, каб справіць патрэбу, — дадаў Фэлпс. — Мне здаецца, што ўсе ў басейне сікаюць», — расказаў ён пра звычкі прафесійных плыўцоў.

«Усё роўна ж хлорка знішчае ўсе шкодныя рэчывы», — растлумачыў 27-гадовы чэмпіён.

Пасля выхаду «на пенсію» Фэлпс плануе паглядзець свет. Бо, як кажа плывец, за 12 гадоў спартовай кар'еры ён бачыў толькі «басейны ды гатэлі».

**АГ**

**Сцісла**

**У Беразіне будзе помнік лыжцы**

Вышыня помніка разам з пастаментам — 3,5 метра. Над вырабам самай вялікай лыжкі Беларусі працавалі тры майстры. Выраб, упрыгожаны ўзорамі, плануецца размясціць на ўездзе ў горад. Мяркуецца, што з'яўленне скульптуры будзе ўмацоўваць турыстычны брэнд Бярэзіншчыны.

**Nokia вырабіла апошні тэлефон у Фінляндыі**

Завод зачыніцца ў верасні, 780 чалавек будуць звольненыя. Ім выплацяць кампенсацыю і дапамогуць знайсці іншае месца працы. Вытворчасць тым часам пераедзе ў азіяцкія краіны. На гэтым атрымаецца ашчадзіць амаль $2 мільярды да канца наступнага года.

**ЯМ**

**Анекдоты**

* * *

А чаму разам з Рачкоўскім і Пахмелкіным звольнілі і Румаса? Відаць, падумалі, што прозвішча шведскае.

* * *

Дзіўна, што ў Беларусі яшчэ не забаранілі кніг пра Карлсана. Таксама ж швед, лётчык і троль.

* * *

Святар у царкве:

— Абвяшчаю вас мужам і жонкай! Можаце напісаць пра гэта ў Фэйсбук.

* * *

Сацыёлагі высветлілі, што, пад-няўшы з дывана нітку, якую не змог усмактаць пыласос, 85% мужчын кідаюць яе назад, каб даць пыласосу яшчэ адзін шанец.

* * *

Айподы... Айпады... Айфоны...

А яшчэ ў сярэднія вякі ў Рычарда Львінае Сэрца быў аналагічны высокатэхналагічны, шматфункцыянальны дэвайс — збраяносец Айвенга.

* * *

Сыходзячы ў адпачынак, абавязкова зрабі так, каб падчас адпачынку нечакана ўсплыла парачка невырашальных у тваю адсутнасць праблем, бо інакш могуць задумацца пра неабходнасць тваёй пасады!

* * *

Больш за ўсё на Алімпіядзе пашанцавала беларускім гімнасткам. На адваротным шляху ім дасталася месца каля ілюмінатара.




«Гомель» не змог забіць «Ліверпулю», хоць было многа момантаў. Асабліва шчыраваў у атацы чарнаскуры расеец Аляксандр Алумона (на фота). У другім тайме клас ангельцаў сказаўся, гол забіў Сцюарт Даўнінг. У чацвер беларусы згуляюць на «Энфілдзе».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Шаноўныя чытачы, наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду 22 жніўня. Добрага вам адпачынку!

### «НН» сто гадоў з вамі

**Віцебск.** Віцебскую губерню прызналі небяспечнай па халеры: ужо 18 душ ляжыць у бальніцы, а двое дык памерлі. Цяпер якраз даспяваюць усялякія фрукты, і людзі, лішне аб'ядаючыся імі, псуюць сабе жалудкі, а да слабых людзей і халера лягчэй прычапіцца можа. Дахтары дайшлі, што ў Дзвінскай вадзе ёсць халерная зараза і яе сырой піць нельга.

**«НН». №30. 1912.**

**Закон адзін для ўсіх.** Падаткавік Мікола Немцаў хоча спагнаць з тэнісіста Максіма Мірнага 300 тысяч даляраў на карысць дзяржавы. Увагу падаткавікоў спартовец прыцягнуў летась, калі купляў новы аўтамабіль. Цяпер інспекцыя пагражае Максу як мінімум забаронай выязджаць за мяжу. Такія самыя прэтэнзіі падаткавікі маюць да футбалістаў Штанюка і Астроўскага, якія гуляюць за мяжой.

**«НН». №30. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Бела-рускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэ-гістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8115. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 07.08.2012.
Замова № 3219.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614